КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 15 (287) ◂ 13 красавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



СЯРГЕЙ КАВАЛЕНКА



**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**СІБІРСКАЯ ГАЛГОФА БЕЛАРУСКІХ КСЯНДЗОЎ**

Артыкул гісторыка Ігара Кузняцова

▸ З НАГОДЫ

# КАЛІ-НЕБУДЗЬ ДАВЕДАЕМСЯ

Вольга ХВОІН



**11 красавіка — гадавіна выбуху на станцыі «Кастрычніцкая» мінскага метрапалітэну. Гадавіна зменены свядомасці: дзяржава з аграмадным сілавым рэсурсам не можа гарантаваць бяспеку сваім грамадзянам.**

Выбухі ў краіне былі і раней — у пад'ездзе жылога дома, калі быў забіты кіраўнік КДК па Магілёўскай вобласці Яўген Мікалуцкі, у Віцебску, у Мінску, калі пацярпелі дзясяткі людзей. Але выбух на «Кастрычніцкай» упершыню забраў жыцці 15 мірных грамадзян мірнай Беларусі. Цяжкія цялесныя пашкоджанні атрымалі 32, менш цяжкія — 72, іншыя цялесныя пашкоджанні — 283 чалавекі. Беларусь — як краіна з падвойным напластаваннем: на першы погляд, усё проста і зразумела, але пры бліжэйшым разглядзе выяўляецца, што і падзеі, і асобы ў выніку маюць падаплёку.

Вясной 2011 года ў Беларусі панавала перадкрызісная паніка — ажыятажна спусташаліся прылаўкі крамаў, пачала знікаць валюта, наэлектрызаванасць папросту лётала ў паветры. І, па сутнасці, 11 красавіка стала страшнай апагейнай кропкай на ўвесь год. Але, як было згадана вышэй, апагей гэты быў неадназначны. Здавалася б, куды больш проста: было злачынства, злачынцы знойдзеныя і пакараныя.

Ужо праз паўгода Вярхоўны суд прызнаў 25-гадовых «токара і электрыка» — Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва — вінаватымі ў тэракце. І прыгавараў іх да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Канавалаў прызнаў сваю віну ў судзе, але паказанні даваць адмовіўся, за памілаваннем да Аляксандра Лукашэнкі не звяртаўся. Кавалёў у судзе ад ранейшых паказанняў адмовіўся, і ў апошнім слове звярнуўся да прысутных са словамі: «Калі я і сяджу ў гэтай клетцы, гэта не значыць, што я здзяйсняў гэтае злачынства». Уладзіслаў Кавалёў пісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі, да апошняга за яго змагалася маці Любоў (які сімвалізм!). Яна і пасля паведамлення аб выкананні смяротнага прысуду спадзяецца, што «калі-небудзь мы даведаемся ўсю праўду аб тэракце ў мінскім метро».

Абодва выракі былі прыведзеныя ў выкананне прыкладна ў сярэдзіне сакавіка, нягледзячы на тое, што скарга Кавалёва на прыгавор была зарэгістраваная ў Камітэце ААН па правах чалавека. У Вярхоўным судзе не паспелі разгледзець наглядную скаргу на смяротны прысуд. Не будзем абагульняць і гаварыць, што кожны верыць (ці наадварот — не верыць) афіцыйнай версіі, але гэты прысуд докладна не пакінуў у беларусаў адназначнага ўражання.

Паводле снежаньскага апытання 2011 года Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, у вінаватасць Канавалава і Кавалёва не вераць 43,4% беларусаў, 37% — вераць у іх вінаватасць, 19,6% — не змаглі вызначыцца з адказам. Эксперты НІСЭПД таксама адзначаюць, што ў афіцыйную версію следства па справе аб тэракце ў мінскім метро ў больш ступені паверылі жанчыны і пажылыя людзі (традыцыйна гэтая частка насельніцтва галасуе за Аляксандра Лукашэнку, адпаведна, яны апрыёры ў большай ступені давяраюць і трактоўкам улады).

Цікава і тое, што большая частка рэспандэнтаў (53,4% супраць 38,5%) заявілі, што не адчуваюць сябе асабіста пад абаронай Закону. Прычыны гэтага 29,2% апытаных бачаць у тым, «што законы вольна тлумачацца тымі, хто знаходзіцца ва ўладзе», 28,4% — у тым, «што законы пісаныя не для ўсіх — з'явілася занадта шмат людзей, якія адчуваюць сябе над законам».

Пасля гэтага прысуду ці не ўпершыню ад часу рэферэндуму 1996 года ў шырокую публічную дыскусію вылілася пытанне аб наяўнасці ў краіне смяротнай кары. І нават без асветніцкай працы дзяржавы стала зразумела, што прыхільнікаў гэтага віду пакарання значна менш, чым было ў 1996-м. Магчыма, не апошнюю ролю тут адыгрывае акурат такі адчуванне ўласнай абароненасці Законам. Дый справа Канавалава і Кавалёва, якая пакінула пасля сябе мноства пытанняў, але не адчуванне завершанасці, вырашанасці, адыграла немалую ролю. Бо смяротны прысуд бандзе марозаўцаў (само словаспалучэнне выключае маральныя сумневы) і прысуд «токару і электрыку», па завяршэнні якога пацярпелыя крычалі «Ганьба суду!», — розныя для асэнсавання сітуацыі.

Праз год пасля трагедыі быццам бы знойдзеныя і пакараныя вінаватыя, усталяваны помнік, аддадзеная даніна памяці. Усё як мае быць. Але паназірайце, як шарахаюцца ў метро ў бакі людзі ад тых, хто зайшоў з вялікай торбай. Значыць, няма веры ў тое, што больш не загінуць, не будуць скалечаныя па дарозе на працу ці спаткане людзі ў мірнай краіне без войнаў і канфліктаў.

Грамадства вымагае ад дзяржавы не толькі дэманстрацыі фатальнай сілы, але і празрыстасці, зразумелай і неаспрэчнай праўды.

**СКАНДАЛ**

## ГРОДНА. ПЛЮСЫ І МІНУСЫ РЭКАНСТРУКЦЫІ

**Рэканструкцыя чыгуначнага вакзалу і прывакзальнай плошчы ў Гродне пачалася ў сакавіку 2012 года і ўжо прыносіць жыхарам горада шмат нязручнасцяў.**

З-за перанесеных прыпынкаў жыхары горада блытаюцца з маршрутамі гарадскога транспарту, шмат аўтобусаў і маршрутных таксі пачалі спыняцца каля будынка раённага вузла сувязі, што нязручна іншым удзельнікам дарожнага руху. Адначасова з рэканструкцыяй плошчы каля вакзала пачаліся працы ў цэнтральнай частцы будынка.

Аднак жыхароў горада турбуе тое, што рэканструкцыя пачалася па самаму таннаму варыянту. Пры новай пабудове каля вакзала будзе пераважаць пешаходная зона, а транспартная звузіцца да стаянкі таксі і турыстычных аўтобусаў на 76 месцаў. А вось праезная частка вакол плошчы павялічыцца. З боку вуліцы Ціміразева плануецца абсталяваць кішэню на 24 аўтамесцы, а насупраць крамы «Спартыўныя тавары» — на 12 месцаў. Гарадскія аўтобусы будуць спыняцца на вуліцах, што прымыкаюць да плошчы.

Максімальна захаваюць існуючыя зялёныя насаджэнні. Дадаткова на плошчы высадзяць 32 шарападобныя і 8 заходніх туй, 48 кустоў ядлоўца, а таксама каштаны і клёны. Ігар Арцыман асабліва падкрэсліў, што пры рэканструкцыі прывакзальнай плошчы прадугледжаныя ўстаноўка бетонных дарожных, тратуарных і гранітных бартоў, прымяненне дробнаштучнай бетоннай пліткі некалькіх тыпаў рознай канфігурацыі і колеру.

Дадзеная рэканструкцыя ўжо выклікала абурэнне на гарадскім блогу S13.ru і на гродзенскім форуме, дзе многія жыхары разважаюць пра тое, што колькасць асабістага транспарту ў горадзе павялічваецца з кожным годам, а праект рэканструкцыі не ўлічвае гэты факт.

Спадзяванні на тое, што на месцы старога вакзала, якому ўжо каля 30 гадоў, паўстане новы сучасны будынак, разбіліся аб надзеі і спадзяванні жыхароў горада над Нёманам.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

## СЛОНІМ. ЗАБАРАНІЛІ ПІКЕТ СУПРАЦЬ АЭС

**Слонімскі райвыканкам не дазволіў сябрам дэмакратычнага згуртавання гораду праводзіць пікет супраць будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі, матывуючы гэта тым, што няправільна была напісана заяўка. Пікет планавалася правесці 26 красавіка.**

Пасля такога адказу сябры дэмакратычнага згуртавання Слоніма падалі ў мясцовы райвыканкам новую заяўку на пікет, прысвечаны гадавіне Чарнобыльскай АЭС, а таксама збядненню беларускага народа. У пікеце плануецца ўдзел 10 чалавек. Дарэчы, сёлета, як і ў мінулыя гады, Слонімскі райвыканкам падобных мерапрыемстваў праводзіць не дазваляў.

**Паводле spring96.org**

## БРЭСТ, ГРОДНА, БЕЛАСТОК. БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ АДУКАЦЫЯ

**У Брэсце летась адчынілі адзін беларускамоўны першы клас у звычайнай школе. Спачатку было 12 вучняў. Зараз іх засталося пяцёра.**

Настаўнікаў знайшлі з цяжкасцю: апынулася, што ў тутэйшым універсітэце імя Пушкіна факультэт дашкольнага выхавання дае занадта мала, каб можна было працаваць у беларускамоўнай школе. Нават не верыцца, што якіх 17 гадоў таму чыноўнікі падавалі ў справаздачах больш за 70 адсоткаў беларускамоўных школ.

Бацька аднаго з вучняў, Уладзімір Вялічкін, кажа, што праблема больш агульнага плана: нават валодаючы беларускай мовай, ёю не карыстаюцца службоўцы. Іншым разам дэманстратыўна. Таму што «могут быть неприятности».

У Гродна, са словаў кіраўніка абласной арганізацыі ТБМ Алеся Кроя, існуе два беларускіх класы, 1-ы і 2-і, у мікраараёне Дзевятоўка на ўскрайку. У абодвух вучыцца па 1 школьніку. Гэта дзеці прафесара Астроўскага. Яшчэ адзін клас з двух вучняў ёсць у Кастрычніцкім раёне. Агулам летась было 15 заяў у першы беларускі клас, але вучняў расцерушылі па гораду, і бацькам нязручна было ездзіць, таму адмовіліся, тлумачыць спадар Крой, а вось у польскай школе вучацца каля 500 вучняў.

У Беластоку беларускае школьніцтва з 2006 года памалу ідзе ўверх. Менавіта тады ўтварылася АБ-БА — «Аб'яднанне бацькоў, беларушчынай апантаных».

АБ-БА мае свой цэнтр. Ён называецца «Склеп з культурай» і месціцца ў школе №4. Гэта некалькі памяшканняў цокальнага паверху. Тут і Беларуская хатка ў пушчанскім стылі, і глядзельная зала, і шатня. Кіраўніца АБ-БА — Барбара Пякарская, лекарка па прафесіі.

На сёння ў Беластоку па-беларуску вучацца каля 250 школьнікаў. Большасць з іх ходзяць у пачатковыя класы. У ліцэі і гімназіі навучаюцца каля 40 падлеткаў.

Сітуацыя этнацыду складваецца ў «маці-краіне», лічыць бацька першакласніцы з Гродна прафесар медыцынскага ўніверсітэта Алесь Астроўскі. У Беларусі, у адрозненне ад суседніх Украіны, Расіі, не казаць пра Літву і Латвію, няма нават ніводнага ўніверсітэту з нацыянальнай моваю навучання.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

**ГАДАВІНА**

# ПАДАДЗЕНА ЗАЯЎКА НА ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ

**Генадзь КЕСНЕР**

**У Мінскі гарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне 26 красавіка ў беларускай сталіцы шэсця і мітынгу, прысвечаных 26-й гадавіне катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.**

Арганізатары спадзяюцца, што ўдзел у мерапрыемстве возьмуць больш людзей, чым на Дзень Волі 25 сакавіка, калі на вуліцы, па розных падліках, выйшлі ад трох да пяці тысяч чалавек.

У аргкамітэт «Чарнобыльскага шляху» ўвайшлі прадстаўнікі Партыі БНФ, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Руху «За свабоду», «Беларускага руху», Аб'яднанай грамадзянскай партыі, грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!», Руху «Навукоўцы за бяз'ядзерную Беларусь», «Маладога фронту» ды іншых структур.

«Мы просім даць дазвол на шэсце па першай праезнай лініі вуліцы Сурганава. Паколькі гэта проста здзек, калі 25 сакавіка сабралася ад трох да пяці тысяч чалавек, якія ціснуліся па ходніках, замінаючы людзям, што там знаходзіліся, і зацягваючы шэсце, — адзначыў на прэс-канферэнцыі 10 красавіка старшыня аргкамітэту прафесар Юры Хадыка. — Мы заявілі тысячу ўдзельнікаў, але я ўпэўнены, што людзей будзе значна больш. Хоць і мінула 26 гадоў, але людзі працягваюць хварэць і паміраць. Хачу нагадаць, што крыху больш за год таму памёр прафесар Іван Мікалаевіч Нікітчанка — адзін з самых галоўных, актыўных і канструктыўных удзельнікаў чарнобыльскага руху. Таксама нядаўна пайшла з жыцця Галіна Георгіеўна Сямдзянава, якая прыклала шмат намаганняў, каб былі прынятыя законы, што абаранялі б інтарэсы пацярпелых. На жаль, амаль усе гэтыя законы адменены, таму «Чарнобыльскі шлях» застаецца актуальным і да сённяшняга дня».

Прадстаўнік грамадзянскай кампаніі «Астравецкая АЭС — гэта злачынства» Таццяна Новікава паведаміла, што экалагічная супольнасць Беларусі будзе браць актыўны ўдзел у акцыі 26 красавіка.

Па словах старшыні Партыі БНФ Аляксея Янукевіча, для ягонай арганізацыі пытанні наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, як і пытанні будаўніцтва новай АЭС у Астраўцы, з'яўляюцца пытаннямі выжывання беларускай нацыі і беларускай дзяржавы.

Прадстаўнік БХД Дзяніс Садоўскі заявіў, што апроч экалагічнай тэматыкі, падчас акцыі 26 красавіка будуць уздымацца і надзённыя пытанні, якія цяпер вельмі хвалююць грамадства. «Перш за ўсё, гэта вызваленне палітычных вязняў. Будуць прыняты дэкларацыі з заклікам вызваліць усіх палітычных зняволеных і рэабілітаваць іх», — паведаміў Дзяніс Садоўскі.

**ПЕТЫЦЫЯ**

# У АБАРОНУ ФРЫЛАНСЕРАЎ

**У інтэрнэце ідзе збор подпісаў у абарону журналістаў-фрылансераў. Пасланне, тэкст якога падрыхтавала група сябраў ГА «БАЖ», адрасавана Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і Міністэрству інфармацыі РБ.**

Сутнасць звароту — заклік увесці фармулёўку «журналіст» у беларускі закон «Аб СМІ», дзе зараз фігуруе толькі вузкае паняцце «журналіст СМІ». Фактычна гэта дазваляе ўладам не лічыць журналістамі тых, хто афіцыйна не працуе ні ў якой рэдакцыі.

Азнаёміцца з тэкстам петыцыі і падтрымаць яго можна на сайце thepetitionsite.com

Збор подпісаў быў распачаты ўвечары 9 красавіка, і па стане на вечар 10-га ў падтрымку дакумента выказаліся ўжо больш за 50 асобаў.

«Мэта гэтай акцыі — прыцягненне ўвагі да хібаў заканадаўчай фармулёўкі аднаго з базавых для журналіста паняццяў, — кажа намеснік старшыні ГА «БАЖ» Андрэй Бастунец. — Па-першае, колькасць сабраных пад ёй подпісаў мае засведчыць актуальнасць праблемы. Па-другое, паводле новага закона «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў» (ад 18.07.2011), электронныя звароты таксама прымаюцца дзяржаўнымі органамі да разгляду — пасля іх належнага афармлення. Так што ў Палаты прадстаўнікоў і Мінінфармацыі будзе магчымасць азнаёміцца з гэтай петыцыяй».

**Паводле прэс-службы БАЖ**

**АКЦЫЯ**

# ЛЕВЫЯ РЫХТУЮЦЦА ДА ПЕРШАМАЮ

**Генадзь КЕСНЕР**

**У Мінскі гарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне 1 мая мітынгу, прысвечанага Міжнароднаму дню салідарнасці працоўных.**




Арганізатарамі акцыі выступаюць Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), а таксама аргкамітэты па стварэнню Партыі жанчын «Надзея» і Беларускай партыі працоўных. Заяўку на мітынг падпісалі намеснік старшыні «Справядлівага свету» Валеры Ухналёў і прадстаўнік БСДП (Грамада) Валеры Фралоў.

Пра фармат, мэты і задачы акцыі «Новаму часу» распавёў кіраўнік Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін:

— 1 мая ва ўсім свеце з'яўляецца днём, калі працоўныя і жыхары ўвогуле выступаюць у абарону сваіх сацыяльна-эканамічных, а часта і палітычных правоў. Таму гэта такі традыцыйны дзень выступленняў левых сілаў. Нічога новага мы тут, у Беларусі, не прыдумлялі, і чатыры палітычныя партыі вырашылі сумесна правесці першамайскі мітынг, які мы плануем зладзіць у Парку Дружбы народаў каля Плошчы Бангалор. Мы адмыслова ўзялі месца, дазволенае для правядзення падобных акцыяў. Мітынг плануецца ад 12-й да 13-й гадзіны.

Асноўнымі тэмамі і лозунгамі мітынгу будуць, традыцыйна, узровень жыцця людзей, сацыяльна-эканамічныя праблемы, якія апошнім часам абвастрыліся. Многія людзі сёння ўжо не могуць набыць нават самыя неабходныя для жыцця тавары і паслугі, бо кошты ўзляцелі да непрыстойных памераў, а заробкі, пенсіі, стыпендыі, дапамогі за імі проста не паспяваюць. Людзі вымушаныя адмаўляцца ад самага неабходнага. Таму тэма эканамічнага самаадчування грамадзян будзе асноўнай.

Але таксама будуць і дзве тэмы палітычнага характару, якія звязаны ў тым ліку і з сацыяльна-эканамічным самаадчуваннем — гэта праблема вызвалення палітычных зняволеных і праблема справядлівых выбараў. Мы ведаем, што сёлета ў краіне мусяць адбыцца выбары ў Палату прадстаўнікоў, мы ведаем, што ўсе папярэднія выбары, пачынаючы з 1995 года, не былі справядлівыя і свабодныя, таму мы хочам прыцягнуць увагу грамадзян Беларусі да гэтай праблемы. Я мяркую, што на мітынгу будзе прынятая адпаведная рэзалюцыя, якая ўтрымлівае патрабаванні па ўсіх гэтых трох тэмах.

Мы не бачым падставаў, каб нельга было не дазволіць гэтую акцыю. Калі ўлады сілай адбяруць апаратуру, тады мы будзем выкарыстоўваць іншыя сродкі для размовы з насельніцтвам. Канешне, мы будзем улічваць магчымасці такога адбірання і будзем думаць, як мінімізаваць наступствы.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# І МЫ, ПА-РАНЕЙШАМУ, ЧАКАЕМ...

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На гэтым тыдні адбылася даволі значная падзея. Гадавіна тэракту ў мінскім метро. Роўна год таму былі забітыя 15 чалавек, і больш за 300 — параненыя. Гэты тэракт ускалыхнуў усё грамадства. І сам тэракт, і яго расследаванне выклікалі шырокі грамадскі рэзананс.**



Праз суткі пасля тэракту, вечарам 12 красавіка, былі затрыманыя падазроныя, 25-гадовыя выхадцы Віцебска Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў. Акрамя абвінавачання ва ўчыненні тэракту ў метро, пасля іх абвінавацілі ў выбухах у Віцебску восенню 2005 года і ў Мінску 4 ліпеня 2008-га.

Крымінальную справу аб тэракце ў метро разглядаў Вярхоўны суд. Канавалаў падчас працэсу сваю віну прызнаў поўнасцю. Кавалёў сваю замешанасць ва ўсіх трох выбухах адмаўляў, а таксама заявіў, што падчас дасудовага расследавання агаварыў сябе і Канавалава пад націскам следства. 30 лістапада суд прыгаварыў іх да вышэйшай меры пакарання — смяротнай кары. Канавалава прызналі вінаватым у тэрарызме, Кавалёва — у дапамаганні тэрарызму і неданясенні аб падрыхтоўцы злачынства.

Кавалёў падаў касацыйную скаргу на прысуд і прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Канавалаў, паводле афіцыйных даных, прашэнне не падаваў.

Лукашэнка ў памілаванні адмовіў, матывуючы гэта «небяспекай і надзвычай цяжкімі наступствамі для грамадства ўчыненых актаў тэрарызму».

Камітэт ААН па правах чалавека, куды паступіла скарга ад родных Кавалёва, заклікаў улады Беларусі не караць смерцю асуджанага да таго часу, пакуль скарга не будзе разгледжана. Тым не менш 17 сакавіка стала вядома, што абодва смяротныя прыгаворы прыведзеныя ў выкананне. Як вынікае з афіцыйнай даведкі аб смерці Кавалёва, гэта адбылося 15 сакавіка.

Многія ў Беларусі, у тым ліку некаторыя пацярпелыя ад тэракту, сумняваюцца ў віне Канавалава і Кавалёва. Яны ўказвалі на тое, што судовы працэс не адпавядаў прававым нормам, доказы абароны ігнараваліся. Праваабаронцы, у сваю чаргу, адзначаюць беспрэцэдэнтна хуткае пакаранне смерцю абвінавачаных у тэракце, што, паводле іх меркавання, выглядае падазрона.

Напярэдадні ў Беларусі ў офісе грамадскага аб'яднання «Рух «За Свабоду» ў Мінску 10 красавіка адбылася прэзентацыя фільма тэлеканала «Белсат» «Страх у краіне спакою» пра тэракт у мінскім метро 11 красавіка 2011 года. Рэжысёр фільма — Кацярына Бортнік.

Аўтары фільма аналізуюць факты і ставяць пад сумненне афіцыйную версію падзей на станцыі метро «Кастрычніцкая». У прыватнасці, у фільме ставіцца пад сумненне тое, што Канавалаў і Кавалёў былі сапраўды тэрарыстамі, а не выканаўцамі чыёйсьці задумы. Фільм закранае найбольш супярэчлівыя моманты крымінальнай справы ў дачыненні да іх і парадак яго разгляду, а таксама відэаматэрыялы, сведчанні экспертаў, паказанні сведак, супярэчнасці ў паказаннях, якія так і не былі разгледжаныя ў судзе.

«Чаму галоўны абвінавачаны Дзмітрый Канавалаў не прамовіў на працэсе ні слова? Чаму яго сям'я адмовілася ад паказанняў, спасылаючыся на тое, што не можа даваць паказанні супраць блізкіх сваякоў?» — задае ў фільме пытанне маці пакаранага Уладзіслава Кавалёва. І сама ж адказвае: «Таму, што яны былі прыведзеныя ў суд пад аховай, пад канвоем, і тым самым Канавалаву было паказана, што здарыцца з яго сям'ёй, калі ён прамовіць хоць слова».

У фільме Уладзімір Захматаў, доктар тэхнічных навук, выдатны спецыяліст у галіне выбухаў, прызнаны эксперт у ЗША, Расіі, Украіне, разабраў кадры следчага эксперыменту, на якім захаваныя кадры таго, як Канавалаў збірае выбуховую прыладу. Ён адзначыў, што сама па сабе такая прылада не змагла падарвацца так, як гэта было ў метро. «Наогул, гэты следчы эксперымент паказвае поўную адсутнасць ведаў у Канавалава пра выбуховыя рэчывы. Гэта, хутчэй, расказ школьніка-троечніка, які спрабуе адказаць настаўніку дрэнна вывучаны ўрок», — гаворыць Захматаў.

Любоў Кавалёва адзначыла, што ў фільме прыведзена «толькі крыху доказаў і спрэчных момантаў у справе Канавалава і Кавалёва». «У гэтым фільме сабраныя толькі відэадоказы. У ім няма іншых доказаў і спрэчных момантаў. Напрыклад, чаму адбіткі пальцаў Канавалава трапілі ў базу даных МУС толькі праз два дні пасля тэракту ў мінскім метро? На якіх падставах тады супрацоўнікі спецслужб арыштавалі майго сына і Канавалава, калі яго адбіткаў пальцаў у базе даных на той момант не было? Чаму відэаздымка камер назірання метро была зманціравана? Такіх пытанняў шмат», — сказала Кавалёва.

Паводле яе слоў, тыя ж пытанні задаюць і пацярпелыя падчас тэракту.

Але што самае цікавае: у фільме адзначаецца, што выбухаў у Беларусі было не менш за дзесятак. І толькі ў адным выпадку, апроч выбуху ў метро, злачынства было пакаранае. Маецца на ўвазе забойства кіраўніка КДК па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага. І тое, галоўны падазраваны неяк здолеў павесіцца ў камеры турмы.

Пытанняў шмат. Галоўнае пытанне: калі мы даведаемся праўду?

І яшчэ адна навіна. На таксоўку могуць вырасці кошты. Для рэнтабельнай працы легкавых таксі ў Мінску неабходна павысіць тарыф да 5 тысяч рублёў за кіламетр, заявіў на прэс-канферэнцыі 11 красавіка дырэктар дыспетчарскай службы таксі «135» Алег Радкевіч.

Дырэктар дыспетчарскай службы таксі «107» Ігар Верхавец не выключыў, што тарыф будзе павышаны ў сувязі з ростам цэн на паліва.

А тым часам 11 красавіка канцэрн «Белнафтахім» афіцыйна аб'явіў аб другім у 2012 годзе павышэнні адпускных і розвнічных цэн на аўтамабільнае паліва. 11 красавіка цэны павялічыліся на 5–12%.

Паводле інфармацыі канцэрна, кошт бензіну Нармаль–80 складае 6 050 рублёў за літр (+650, або 12%), Аі–92 — 6 300 (+300, або 5%), Аі–95 — 6 800 (+350, або 5,4%), дызпаліва — 6 950 (+350, або 5,3%).

Перагляд цэн канцэрн традыцыйна растлумачыў неабходнасцю «паэтапнага збліжэння цэн на тавары ў краінах Мытнага саюза і павышэння эфектыўнасці працы беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў».

Давядзецца ездзіць грамадскім транспартам.

**Чаму галоўны абвінавачаны Дзмітрый Канавалаў не прамовіў на працэсе ні слова? Чаму яго сям'я адмовілася ад паказанняў, спасылаючыся на тое, што не можа даваць паказанні супраць блізкіх сваякоў?**

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІХАІЛ РУСЫ



Аляксандр Лукашэнка прызначыў цяпер ужо былога міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Міхаіла Русага віцэ-прэм'ерам краіны. Звяртаючыся да Міхаіла Русага, Аляксандр Лукашэнка адзначыў: «Прызначаючы вас на гэтую пасаду, я ніколькі не вагаўся, таму што вам не проста не трэба будзе ўваходзіць у курс справы, а вы дасканала ведаеце асноўную сваю зону адказнасці — аграпрамысловы комплекс, які ўключае не толькі сельскую гаспадарку».

«Я вельмі спадзяюся, што тыя канкрэтныя праекты і праграмы, пра якія мы з вамі дамаўляліся ў полі, на ферме, на канкрэтных аб'ектах, будуць рэалізаваны яшчэ хутчэй, чым мы планавалі тады», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

У 2003 годзе Міхаіл Русы быў вызвалены ад пасады міністра сельскай гаспадаркі «за невыкананне даручэнняў кіраўніка дзяржавы аб забеспячэнні поўнай і своечасовай выплаты заработнай платы працаўнікам аграпрамысловага комплексу і пагашэнні запазычанасці перад насельніцтвам і сельскагаспадарчымі арганізацыямі за здадзеную сельскагаспадарчую прадукцыю, а таксама за фальсіфікацыю справаздачных дадзеных па гэтых пытаннях», — узгадвае інтэрнэт-газета «Салідарнасць». У маі 2010 года Русага зноў прызначылі міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання.

### УЛАДЗІМІР МАКЕЙ



Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей заявіў журналістам, што ўлады Беларусі гатовыя да аднаўлення дыялогу з Еўрасаюзам. «Не мы былі ініцыятарамі эскалацыі гэтай напружанасці. Мы абмежаваліся чыста сімвалічнай рэакцыяй нават на апошні віток санкцый. І мы маем намер пачакаць чарговага рашэння Савета Еўрасаюза, які адбудзецца ў канцы красавіка гэтага года, дзе будзе абмяркоўвацца беларускае пытанне. Мы гатовыя да таго, каб пачаць нармальны спакойны дыялог. І, як нам здаецца, паразуменне будзе дасягнута вельмі хутка. І гэта рашэнне Еўрасаюза стане выдатным фонам, калі яно будзе прынята ў духу дыялогу, для вяртання паслоў Еўрасаюза ў Рэспубліку Беларусь. Мы нацэлены на тое, каб сітуацыя развівалася ў спакойным канструктыўным ключы», — цытуе Макея БелаПАН.

«Што тычыцца нейкіх іншых прэтэнзій Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі — тэмы палітвязняў, тэмы смяротнага пакарання, яшчэ нейкіх там рэчаў, то гэтага не варта дакранацца, таму што прэзідэнт учора выразна і ясна расставіў усе акцэнты на гэты конт», — сказаў Макей.

Як лічыць Макей, у сітуацыі, якая склалася, «не застаецца нічога іншага, акрамя як думаць, што рэальна Захаду дыялог з Беларуссю не патрэбен». «Яны робяць стаўку на апазіцыю. Яны адкрыта кажуць пра тое, што лідары апазіцыі, маргінальныя па сваёй сутнасці, павінны прыйсці да ўлады. А ў апошні час адкрыта гучыць і наступная тэма, што гэтыя лідары павінны забяспечыць ім прыватызацыю пад сябе дзяржаўнай уласнасці і рэсурсаў, якія былі створаны беларускім народам», — падкрэсліў Макей.

### АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ



Гісторык, палітолаг Анатоль Сідарэвіч падрыхтаваў «каляндар рэпрэсій». На сайце http://bsdp.org можна знайсці спіс найбольш вядомых асобаў, якія першы раз ці паўторна былі арыштаваныя або знішчаныя ў 1937–1938 гадах і пазней. Падаецца таксама храналогія рэпрэсіяў.

«У БССР тэрор у дачыненні да савецкай, партыйнай і гаспадарчай наменклатуры, пісьменнікаў і навукоўцаў чыніўся ў рамках гэтак званай справы «Аб'яднанага антысавецкага падполля» (АПП). За нібыта прыналежнасць да ААП было арыштавана і засуджана больш за 2570 чалавек, у тым ліку 23 члены ЦК КП(б)Б і ЦК камсамола, 40 народных камісараў і іх намеснікаў, 24 сакратары акруговых, гарадскіх і раённых камітэтаў КП(б)Б, 20 старшынь акруговых, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў, 25 акадэмікаў і навуковых работнікаў АН БССР, 20 пісьменнікаў. Яшчэ большая колькасць трапіла пад каток тэрору па-за гэтай справай», — піша ва ўступным слове Сідарэвіч.

Да слова, сёлета 1 красавіка споўнілася 75 гадоў з дня гібелі кіраўніка першага ўраду савецкай Беларусі Змітра Жылуновіча (пісьменніка Цішкі Гартнага), а 22 красавіка — 75 гадоў з дня самагубства старшыні Саўнаркаму БССР Язэпа Адамовіча. Яны, а таксама тысячы дзеячаў палітыкі, культуры, адукацыі, былі ахвярамі «Вялікага тэрору» 1937–1938 гадоў.

ВЯЗНІ

# «БЫЛЫХ» НЕ БЫВАЕ, ПІЛЬНАСЦЬ НЕ АДМЯНЯЕЦЦА

Вольга ХВОІН

**Былы палітвязень Аляксандр Малчанаў асуджаны да 1,5 года калоніі строгага рэжыму. За былым палітвязнем Паўлам Вінаградавым устаноўлены прэвентыўны нагляд тэрмінам на 2 гады.**



Жодзінскі гарадскі суд прызнаў яго вінаватым у парушэнні ч. 2 арт. 205 Крымінальнага кодэкса (крадзеж, учынены паўторна, або групай асоб, або з пранікненнем у жыллё). Нібыта Малчанаў разам з Арцёмам Ігнацікавым скралі металалом з тэрыторыі жодзінскага кавальскага завода цяжкіх штампоўак. Арцёма Ігнацікава асудзілі да 1,5 года пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прысуду на год.

Знаёмыя Аляксандра Малчанава гавораць, што пасля турэмнага тэрміну за ўдзел у мітынгу 19 снежня 2010 года ён не мог нікуды ўладкавацца на работу, хаця раней працаваў на Барысаўскім рамонтна-механічным заводзе «Гідраўзмацняльнік» і БАТЭ.

Малчанаў у судзе сваю віну не прызнаў: «Тэрыторыя завода не ахоўвалася. Ён лічыць абвінавачванне неабгрунтаваным і несправядлівым. Шмат сведак пацвердзілі, што і раней на тэрыторыі цэха людзі збіралі металалом. І служба аховы нікога не затрымлівала», — цытуе БелаПАН праваабаронцу Насту Лойку.

У апошнім слове Малчанаў звярнуў увагу на тое, што следства не даказала, што металічныя адходы з'яўляюцца абсталяваннем прадпрыемства: «Акрамя таго, прапануючы пазбавіць мяне свабоды, дзяржаўны абвінаваўца не ўлічыў, што, калі мне прызначаць пазбаўленне волі, мае непрацаздольныя бацькі застануцца без апекі». І гэта, на жаль, так.

2 сакавіка 2011 суддзя Фрунзенскага суда Мінска Таццяна Чаркас за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года асудзіла Малчанава на тры гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён адбываў пакаранне ў калоніі №15 Магілёва, але 14 верасня 2011 года быў вызвалены згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі аб памілаванні.

* * *

За Паўлам Вінаградавым (экс-палітвязень, быў асуджаны за ўдзел у мітынгу 19 снежня 2010 года) устаноўлены прэвентыўны нагляд тэрмінам на 2 гады. Былому палітвязню забаронена выязджаць з Мінску без дазволу міліцыі. Ён будзе абавязаны знаходзіцца дома з 20 да 8 гадзіны і 4 разы на месяц адзначацца ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі па месцы жыхарства.

У гэтым годзе Паўла Вінаградава ўжо некалькі разоў затрымлівалі нібыта за брыдкаслоўе і саджалі на суткі. Супрацоўнікі МУС палічылі, што гэта ёсць падставай для ўзмацнення нагляду за палітвязнем. Разам з тым Павел Вінаградаў быў у ліку арганізатараў мірных (і трэба прызнаць, пазітыўных) вулічных акцый, як, напрыклад, «Цацкі мітынгуюць», калі на плошчы Незалежнасці ў Мінску на клумбе былі пакінутыя мяккія цацкі з плакатамі. Пільная ўвага органаў МУС да Вінаградава няйначай тлумачыцца апасеннямі бунту цацак у Беларусі, які можа падрыхтаваць актывіст.

* * *

Таксама на гэтым тыдні актывіст грамадскай арганізацыі «Малады фронт» Міхаіл Мускі асуджаны на 10 сутак арышту, яго таварыша Дзмітрыя Крамянецкага з суда павезла хуткая дапамога ў сувязі з рэзкім пагаршэннем стану здароўя.

Юнакоў затрымалі на станцыі метро «Купалаўская». Паводле інфармацыі прэс-службы «Маладога фронту», да Крамянецкага і Мускага, якія чакалі цягніка, падышлі два супрацоўніка міліцыі і патрабавалі прайсці з імі для дагляду. Маладыя людзі адмовіліся праходзіць дагляд без панятых і папрасілі супрацоўнікаў міліцыі прадставіцца, на што апошнія, па словах відавочцаў, адказалі нецэнзурна.

Мяркуецца, што падставай для затрымання стала нашыўка з эмблемай «Малады фронт» і выявай бел-чырвона-белага сцяга на заплечніку аднаго з актывістаў. У выніку Мускага і Крамянецкага абвінавацілі па артыкуле 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за нецэнзурную лаянку. Калі маладых людзей у кайданках выводзілі з апорнага пункта міліцыі, відавочцы на іх вопратцы бачылі адбіткі ботаў.

* * *

На пачатку красавіка Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што ў хуткім часе выпусціць палітвязняў, якія напісалі да яго прашэнні аб памілаванні. «Вельмі шмат у апошні час кажуць пра нейкіх палітвязняў. У нас у Крымінальным кодэксе няма палітычных артыкулаў, — зазначыў кіраўнік дзяржавы, ён дадаў, што сваякі палітзняволеных пачынаюць яго папракаць у тым, што ён абяцаў іх памілаваць, але пакуль гэтага не зрабіў: — Прычына адна. Як толькі я сказаў пра гэта (а гэта было сказана некалькі месяцаў таму назад), усе зараўлі. Але я папярэдзіў, што пытанне памілавання так званых палітвязняў — гэта, перш за ўсё, іх зварот з просьбай аб памілаванні. Я адразу публічна пра гэта сказаў. Не хочаш звяртацца — ніхто і разглядаць не будзе. Сядзі». Лукашэнка паабяцаў у бліжэйшы час разглядзець напісаныя прашэнні. «У дачыненні да тых, хто папрасіў аб памілаванні, у бліжэйшы час я разгледжу гэтыя пытанні. Мяне ніхто не папракне, што я свае абавязацельствы або абяцанні не выконваў. Мы прымем рашэнне па некаторых асобах, якія ўрэшце ўсвядомілі згубнасць сваёй пазіцыі і палітыкі ў дачыненні да ўласнай дзяржавы», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Вядома, што прашэнні аб памілаванні на імя Лукашэнкі пісалі экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Андрэй Саннікаў і яго давераная асоба Дзмітрый Бандарэнка. Зняволены экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч пісаць прашэнне аб памілаванні катэгарычна адмовіўся.

Цяпер у Беларусі ў месцах зняволення знаходзіцца 12 апазіцыйных палітыкаў і грамадскіх актывістаў, якіх прадстаўнікі апазіцыі і заходнія краіны лічаць палітвязнямі.

ЗМАГАННЕ

# СЁННЯШНЯЯ АХВЯРА — ЗАЎТРАШНІ ГЕРОЙ

Вольга ХВОІН

**Сяргея Каваленку перавялі ў Рэспубліканскі цэнтр псіхічнага здароўя ў Навінках для комплекснага абследавання. Сяргей працягвае трымаць галадоўку, дамагаючыся свайго вызвалення, бо лічыць сябе несправядліва асуджаным. Ад пачатку красавіка яго кормяць прымусова.**



Сяргей Каваленка быў асуджаны на 2 гады зняволення за парушэнне рэжыму адбыцця пакарання «хатняй хіміяй», якую яму прысудзілі за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй ёлцы у Віцебску ў 2010 годзе. 19 снежня 2011 года вязень трымаў галадоўку пратэсту супраць прысуду, якую адваіў у лютым пасля 20-дзённага перапынку. 10 красавіка Віцебскі абласны суд збіраўся разгледзець касацыйную скаргу на прысуд Сяргею Каваленку, але прыняў рашэнне накіраваць вязня на экспертызу ў Навінкі. Разгляд касацыйнай скаргі прыпынены.

Ці вар'ят Каваленка ў сваім жаданні дамагчыся адмены прысуду нават пагрозаю ўласнаму жыццю, гатоўнасці памерці за бел-чырвона-белы сцяг? Наўрад ці. У такім выпадку вар'ятамі трэба прызнаць кіраўніка «Маладога Фронту» Дзмітрыя Дашкевіча, які цяпер у турме, былога палітвязня Мікіту Ліхавіда, што не выходзіў з карцэраў у часе адбыцця пакарання, бо не ішоў на супрацоўніцтва з адміністрацыяй калоніі і лічыў свой прысуд несправядлівым. Неадэкватнымі пры такім раскладзе мусяць выглядаць і экс-кандыдаты ў прэзідэнты, што прайшлі праз турмы (а Саннікаў і Статкевіч там знаходзяцца дагэтуль), праваабаронцы, журналісты, якія вымушаныя працаваць у Беларусі на нелегальных умовах, і многа іншых людзей самых розных прафесій, адукацыі, выхавання. І ўся іх неадэкватнасць зводзіцца да аднаго — нежадання падпарадкавацца сістэме, з якой яны не згодныя. Наяўнасць у грамадстве не згодных з асноўнай лініяй — нармальная з'ява. Ненармальна, калі сваю нязгоду трэба адстойваць праз турмы і вар'ятні.

І усё ж ва ўсім гэтым ёсць адзін ці не найбольш прыкры момант: калі гісторыя Каваленкі ці каго іншага з прынцыповых апанентаў афіцыйнай улады скончыцца трагічна — гэта не абудзіць маўклівую большасць. Са згоды гэтай самай большасці кляпаюцца і транслююцца фільмы па дзяржаўнаму тэлебачанню а-ля «Жалезам па шклу», амапаўцы ламаюць ногі мінакам, якім не пашанцавала прайсціся побач з апазіцыйным мітынгам. Зрэшты, з гэтай самай маўклівай згоды справы зніклых палітыкаў дзяржаўнага ўзроўню так і павіслі ў паветры. Ахвяры дзеля самога акту ахвяравання. Яны не патрэбныя грамадству? Магчыма, не, калі разглядаць яго без кропкавых элементаў такіх жа іншадумцаў.

Гэтыя героі і ахвяры патрэбныя гісторыі. У снежні 1965 года на Пушкінскай плошчы ў Маскве выйшлі некалькі чалавек з патрабаваннем выконваць савецкую Канстытуцыю. На той час яны выглядалі дзівакамі — не менш. Але праз пяцьдзесят гадоў гэтыя людзі ў шэрагу герояў, якія запачаткавалі праваабарончы рух СССР. Гісторыя краіны, дзяржавы не грунтуецца на адным чалавеку. І, хай непрызнаны ў сваёй упартасці сёння, заўтра Каваленка будзе атаясамлівацца з вернасцю і адданасцю сваёй ідэі. Нацыянальны сцяг і праўда — ідэальнае спалучэнне, якое для гістарычнай постаці краіны падыходзіць значна лепш за мікс жорсткасці, прагі да ўлады і «ненахіляемасці». Фактычна, місія выкананая.

Па вялікаму рахунку, улады самі дапамаглі ў выбудоўванні гераічнага вобразу. Адпусцілі б Каваленку пад падпіску — і не было б гэтай гераічна-трагічнай гісторыі. Але даць спуск аднаму — праявіць слабасць перад тысячамі. І як тады можна аргументаваць сваю паталагічную нелюбоў да апазіцыі, якая ходзіць пад бел-чырвона-белымі сцягамі? Таталітарны ўклад не прадугледжвае скідак і паслабленняў — усё мусіць быць падпарадкавана адзіна правільнай цэнтральнай лініі. Толькі ніводная лінія не вечная, на яе разломе застанецца «апошні дыктатар Еўропы» ды ім жа, як супрацьпастаўленне, спароджаныя ахвяры і героі.

ПРАБЛЕМА

# ПЕШШУ І БЕЗ ВІЗЫ

Яўген БЯЛАСІН

**У выпадку ўвядзення малога памежнага руху (МПР) амаль траціна беларусаў магла б больш свабодна вандраваць па памежжы. Адзін з магчымых сегментаў такога руху — беларуска-польская мяжа.**



Людміла Жуковіч, намесніца старшыні Брэсцкага райвыканкама

## Рух без руху

Запланаванае і абвешчанае ўвядзенне малога памежнага руху прадугледжвае для грамадзян Беларусі і Польшчы, што пражываюць у пяцідзесяці кіламетрах ад супольнай мяжы, магчымасць перасякаць яе паводле адмысловай Карты жыхара памежнай зоны. Карта выдаецца на працяглы тэрмін і каштуе няшмат, каля 20 еўра. Такой магчымасцю змаглі б карыстацца каля 1 мільёна 200 тысяч жыхароў Брэсцкай і Гродзенскай абласцей і каля 700 тысяч жыхароў Падляшскага і Люблінскага ваяводстваў у Польшчы.

Дакументы на беларуска-польскі памежны рух ужо больш за год ляжаць без руху ў адной з шуфлядаў вярхоўнай канцылярыі беларускіх уладаў.

«Якое ваша стаўленне да дамовы аб малым памежным руху? а) станоўчае; б) адмоўнае; в) вам усё роўна». Менавіта на такое пытанне я папрасіў адказаць людзей паабапал беларуска-польскай мяжы.

Маё апытанне не было рэпрэзентатыўным, але пэўнае ўяўленне пра настроі давала. Вынікі атрымаліся такія: у Бяла-Падлясцы адназначна «за» МПР выказаліся 3 чалавекі, 2 былі супраць, 5 выказалі абыякавасць. У Тэрэспалі: 6 — за, 1 — супраць, 3 — не вызначыліся. У Брэсце станоўча паставіліся да дамовы 14 чалавек, 2 — станоўча з агаворкамі, 1 не адказаў нічога, 3-х асобаў гэтая праблема ніяк не турбавала.



Віцэ-стараста Бельскага павету Ян Байкоўскі

А вось Ян Байкоўскі, віцэ-стараста Бельскага павету, выказаў надзвычайную цікавасць да тэмы: «Памежны рух — шанец для эканамічнага развіцця. Мы гэта напэўна ведаем з досведу нашай заходняй мяжы і гісторыі развіцця прылеглых да мяжы рэгіёнаў як у Польшчы, так і ў Германіі. Мяжа — гэта карысць для абодвух бакоў… Польска-беларуская мяжа — гэта не толькі мяжа паміж дзвюма дзяржавамі. Гэта і мяжа Еўрапейскага саюза. Гэта робіць яе яшчэ больш важкай і перспектыўнай. Таму менавіта тут асабліва важна не прайсці міма выйгрышу. Важна, каб маглі вольна перасоўвацца прадпрымальнікі, моладзь, проста турысты. Нарэшце, каб не было праблем з цывілізаваным перамяшчэннем капіталаў. А інакш зноў паўстане нешта кшталту той «жалезнай заслоны», якая была ў часы супрацьстаяння ідэалагічных сістэм».

По меркаванні Байкоўскага, важна, каб можна было рухацца пешшу. Пра гэта сведчыць досвед польска-ўкраінскага памежнага руху. «Пад'ехаў да мяжы, пакінуў аўто — і на той бок. Там узяў таксі, калі трэба. Схадзіў у госці, парабіў справы — і назад да аўто. І гэта працуе», — лічыць пан Байкоўскі. Гэта, па яго меркаванні, вырашыць праблему шматгадзінных стаяння ў аўтамабільных чэргах на мяжы.

Людміла Жуковіч, намесніца старшыні Брэсцкага райвыканкама, таксама адназначна выказалася за малы памежны рух: «Ён нам папросту неабходны. І гэта меркаванне абсалютнай большасці жыхароў Брэсцкага раёна. Надта падразае гэтае абмежаванне, ехаць на аўто за мяжу не часцей аднаго разу на 8 дзён. У нас, у Тамашоўцы, вялікі басейн. Ды і яшчэ шмат такога, чаго ў суседзяў няма. Раней туды з ахвотай прыязджалі палякі і ўкраінцы. Дзве стабільныя групы нават сфармаваліся. А цяпер не выпадае. Занадта шмат валтузні з дакументамі… Раней тая ж Тамашоўка і польскае Владава былі адзіным населеным пунктам. Праваслаўныя вернікі з усёй акругі хадзілі ў царкву. У Тамашоўцы царквы не было, бо не было патрэбы. А цяпер, каб схадзіць туды, трэба віза».

«Канешне, мы спрабуем наладзіць трывалы кантакт у інтарэсах людзей, — распавядала Людміла Васільеўна. — Існуюць дамовы аб супрацы паміж сельсаветамі, гмінамі, абмены дэлегацыямі. У Страдзічах штогод ладзіцца міжнародны трансмежавы марафон. Ёсць два велатурыстычныя маршруты, якія лучаць Берасцейшчыну з Владаўскім і Бельскім паветамі. Летам плануем адкрыць байдарачны маршрут па Бугу ад Тамашоўкі да Даманава для беларускіх, польскіх і ўкраінскіх турыстаў. З сямейным ухілам. Памежнікі далі дазвол. Маем пляцоўку, дзе доступ да ракі вольны. Але і ўмову нам паставілі: будуць парушэнні мяжы — закрыем».

Магчыма, атрымаецца больш цесна злучыць берагі Буга ў 2013 годзе, плануецца шматдзённы Фестываль культуры трох народаў. Праграма падтрыманая адміністрацыяй Еўрарэгіёна «Буг».

Узгадваю ацэнку МПР паміж Украінай і Польшчай, якую яшчэ ў 2010 годзе выказала генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Брэсце Анна Навакоўска. Перад заступленнем на пасаду ў Беларусі яна тры гады адпрацавала ва Украіне. Паводле спадарыні консула, за першы год МПР паміж Украінай і Польшчай Карту жыхара памежнай зоны з-за правапарушэнняў (дробную кантрабанду, выезд за межы гасцявой памежнай зоны) страціла вельмі нязначная частка ад усіх уладальнікаў гэтага бонуса. Большая ж частка законапаслухмяна карысталася новымі магчымасцямі.

Такім чынам, і мясцовыя жыхары, і мясцовыя ўлады зацікаўленыя ў адкрыцці малога памежнага руху. Няхай сабе акцэнты гэтай цікавасці не зусім супадаюць, але і там, і там разумеюць, што гэта спосаб для залагоджвання сацыяльнага напружання, звязанага з эканамічным крызісам і беспрацоўем. Пры існаванні МПР у людзей з'яўляюцца дадатковыя магчымасці пабудаваць (умацаваць) фінансавы падмурак свайго існавання. Зразумела, і гістарычныя, культурныя чыннікі таксама не апошнія. Дзіўна толькі адно: чаму мы гэтага руху дагэтуль не маем?



Воданапорныя вежы ў Бяла-Падлясцы і Брэсце. І там, і там хацелі зрабіць то музей, то рэстарацыю. І там, і там нічога не атрымалася

---

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# УЛАСНЫХ ГРОШАЙ НЯМА

**Не прайшло і года, як беларусам было сказана, што жывуць яны не па сродках. Беларусы ў масе сваёй пагадзіліся зацягнуць тужэй паясы, каб порткі не зваліліся, сціснуць зубы і пацярпець. Пакуль нешта кіраўнікамі прыдумаецца.**



Мусіць, прыдумалі. Прынамсі гэта выцякае з дадзеных сакавіцкага апытання НІСЭПД, пра якія каментатары кажуць, што пазітыўная эканамічная статыстыка спрыяе перамозе гістарычнага аптымізму ў электаральных галовах.

Магчыма, так яно і ёсць. Бо народ не такі ўжо і разумны. Асабліва тыя, хто напярэдадні крызісу ўклаў грошы ў нейкія праекты. Прыкладам, я стаў чальцом кааператыва па газіфікацыі роднай вёскі. Ды добра, што выплачваў горшы па меры выканання работ, таму «заляцеў» усяго на 500 долараў. А людзі ж спяшаліся, валаклі тысячамі, калі ўжо апошняму дурню было зразумела, што дзяржаўныя фінансы абваліліся.

Дэвальвацыю рабілі дзеля таго, каб грошы адабраць. А не наадварот. Таму зусім не складана той жа Ермаковай сказаць, што ўрад не адхіляе намеры калісьці сплаціць яшчэ савецкія ашчаджэнні, але нічога не кажа пра грошы насельніцтва, якія гэты ўрад спаліў год таму.

Увогуле, статыстыка здольная прыносіць добрыя сюрпрызы. Асабліва таму, хто ўмее ёй маніпуляваць. Прыкладам, кіраўнік дзяржавы напачатку бягучага года заявіў, што плынь валюты, якая хлынула ў Беларусь ад знешняга гандлю, з'яўляецца самай вялікай за ўсю яе гісторыю. Ну проста грошай куры не клююць. І мала каму прыйшло ў галаву параўнаць паміж сабой лічбы экспарту і імпарту, тыя крыніцы, з якіх бярэцца адно, і накірункі, куды знікае другое. Прыкладам, упершыню за многія гады Беларусь пачала экспартаваць уласную сырую нафту, бо НПЗ загружаны перапрацоўкай імпартнай сыравіны.

Што гэта такое? Калісьці яшчэ Мендзялееў казаў, што тапіць печ нафтай — тое ж самае, што і тапіць асігнацыямі.

Няўжо нашы пра гэта не чулі? Ці так прыпякло, што вырашылі напляваць на дырэктывы аб эканоміі? Калі грошы пільна патрэбныя, ці да такіх дробязей?

Але што атрымоўваецца ад гэтага на самай справе? Па дадзеных гандлёвага балансу, на студзень-люты бягучага года Беларусь мае адмоўнае сальда ў гандлі з Расіяй у памеры 2,405 мільярда долараў. Асноўнай крыніцай дэфіцыту з'яўляецца закуп нафты. Нафта перапрацоўваецца на двух беларускіх НПЗ і прадаецца амаль выключна ў краіны Еўрасаюза. Тут амаль кожны мае сваю выгоду: хто ад чыгуначнага транзіту, хто ад марскога, хто непасрэдна гандлюе бензінам ды дызельным палівам. Урэшце, ад гандлю ў асноўным нафтапрадуктамі, атрыманымі з чужой сыравіны, сальда ў гандлі з Еўропай склалася дадатнае ў памеры 2,53 мільярда долараў. У выніку атрымалася невялікае дадатнае сальда ў гандлі таварамі ўвогуле — 387 мільёнаў долараў.

Але значна больш важныя праблемы якасныя. Прыкладам, на двух НПЗ, на трубаправодным транспарце, на салігорскіх рудніках працуе колькі дзясяткаў тысяч чалавек, якія дзякуючы свайму роду заняткаў, а не нейкім выключным здольнасцям, маюць магчымасць вырабляць канкурэнтаздольныя тавары і прыбыткова гандляваць імі на знешніх рынках. Прычым, галоўнай іх задачай з'яўляецца атрыманне дастатковай колькасці грошай на закуп кожнай чарговай колькасці сыравіны.

Як кажуць, не да жыру, быць бы жывым. Вось гэту тактыку эканамічнага выжывання беларускае кіраўніцтва давяло да выключнай якасці. А стратэгіі як не было, так яе і няма. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у эканоміцы занята 4,6 мільёна чалавек. Атрымоўваецца, што ніхто з іх, акрамя тых дзясяткаў тысяч, што працуюць на НПЗ, не здольны рабіць нічога вартага, канкурэнтаздольнага.

Крыўдна, а з іншага боку, боязна. Атрымоўваецца, што нягледзячы на шматлікія канцэпцыі нацыянальнай бяспекі, Беларусь выглядае зусім безабароннай. Ведама ж, што нафта калісьці скончыцца, асаблівыя стасункі з Расіяй могуць скончыцца яшчэ раней. Пра еўрапейскія санкцыі лепш не ўспамінаць.

Дык ёсць грошы ў Беларусі ці няма? Адны кажуць, што ёсць, і таму можна пакуль што пачакаць з новымі дарагімі крэдытамі. Нават калі гэта так, то нельга лічыць праблему вырашанай канчаткова. Усялякае «пакуль» мае здольнасць зусім нечакана заканчвацца. І, мусіць, не застаецца нічога лепшага, як паверыць старшыні ўрада яшчэ раз. 10 красавіка на пасяджэнні Савета міністраў, дзе разглядаліся вынікі развіцця прамысловасці, Міхаіл Мясніковіч так абазначыў сітуацыю: «Уласных крыніц практычна няма, крэдыты дарагія, застаюцца замежныя інвестыцыі». Як перадала БелТА, па словах урадаўца, паказчыкі па прыцягванні замежных інвестыцый, у тым ліку на прамой аснове, арганізацыямі Мінпрама былі нездавальняючымі. Сёлета сітуацыю трэба палепшыць.

Вось і атрымліваецца, што грошай, прынамсі ўласных, няма.

▸ КІНО

# КАГОСЬЦІ, ВІДАЦЬ, ПАСАДЗЯЦЬ

Вольга ХВОІН

**Ад пачатку сакавіка любы таленавіты аўтар можа свабодна падаць сваю сцэнарную заяўку ў Мінкульт. Манаполіі «Беларусьфільма» быццам бы пакладзены канец, а тым, хто мроіць пра небасхілы кінаіндустрыі, далі сігнал аб старце адкрытага конкурсу на падтрымку талентаў. Толькі эксперты, якія ведаюць, што сабой уяўляе беларускі кінематограф, пра перспектывы айчыннага кіно гавораць стрымана. І падкрэсліваюць: трэба мяняць сістэму, а не адзін вінцік у ёй.**

У беларускі кінематограф уводзіцца практыка прадзюсавання. Каб зацікавіць вытворцаў фільмаў у прасоўванні і продажы фільмаў, устанаўліваецца абмежаванне фінансавання выдаткаў па вытворчасці фільмаў у рамках сацыяльна-творчага заказу за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту да 70 працэнтаў (за выключэннем дакументальных, дзіцячых, анімацыйных і дэбютных фільмаў, фінансаванне якіх прадугледжана да 100 працэнтаў). Арганізацыям кінематаграфіі даецца магчымасць атрымання льготных крэдытаў для вытворчасці фільмаў па сацыяльна-творчай замове, а таксама пакрыццё за кошт бюджэту прадзюсарскіх рызык вытворцам буйнабюджэтнага паспяховага фільма, калі яго на працягу трох гадоў з моманту пачатку пракату паглядзела больш за 80 тысяч.

## Бачу тупік

У сакавіку Міністэрства культуры абвясціла адкрыты рэспубліканскі конкурс кінапраектаў на вытворчасць нацыянальных фільмаў і фільмаў па сацыяльна-творчых замовах. На працягу трох месяцаў камісія будзе разглядаць і адбіраць кінапраекты, якія прэтэндуюць на дзяржаўную фінансавую падтрымку. Бюджэтнае фінансаванне конкурсу на 2012 год складае каля 10 мільёнаў долараў. Заяўкі на ўдзел у конкурсе кінапраектаў прымаюцца ад 26 красавіка па 25 мая.

«Вялікі шанец, што большая частка грошай пойдзе прайдзісветам, як гэта заўсёды бывае на першых этапах. Бо ў нас няма кампаній, якія б сур'ёзна заявілі пра сябе ў кінавытворчасці, папросту няма. Наша прадзюсарская супольнасць — гэта людзі, якія называюць так сябе, але па сутнасці імі не з'яўляюцца. Гэта будзе цяжкі працэс фармавання. Кагосьці, відаць, пасадзяць, — выказаў свой прагноз драматург, сцэнарыст Андрэй Курэйчык у часе дыскусіі «Кінематограф Беларусі: калі заваюем «Оскара»?», арганізаванай «Ліберальным клубам». — Але, магчыма, з'явіцца некалькі чалавек ці кампаній, што змогуць распарадзіцца гэтымі грашамі і стварыць прадукт, які будзе запатрабаваны. Магчыма. Я гэтага не выключаю. Я хачу сказаць: добра, што з'явіўся шанец вось так падаць праект — магчыма, будзе добры сцэнар, добрае эканамічнае абгрунтаванне праекту — і ўдасца атрымаць гэтыя грошы на фільм».

Андрэй Курэйчык (як, зрэшты, і многія іншыя маладыя сцэнарысты, рэжысёры) прыйшоў да поспеху і славы ў кінематаграфіі па-за межамі Беларусі. Movie Research прызнала Курэчыка самым паспяховым сцэнарыстам расійскага кіно 2006–2008 гадоў. Курэйчык, навучаны расійскім досведам, даволі скептычна глядзіць на магчымасці сумленнага размеркавання рэсурсаў, але найбольш пытанняў выклікае выбудаваная ў краіне вертыкальная сістэма кіравання. Ва ўсіх сферах.

«Я пакуль, дзякуй Богу, не веру, што камісія, якая прымае рашэнне, абсалютна карумпаваная. Там розныя людзі, некаторыя з іх вельмі далёкія ад кіно, але гэта не карупцыянеры, гэта не так, як у Расіі. Раней там дзяржаўныя грошы выдавалі толькі за «адкаты». Прадзюсар ведаў, што калі ён атрымаў мільён, то сто тысяч трэба вярнуць туды, адкуль яны прыйшлі. Заўжды так было. Але не выключаю, што і тут такое ж з'явіцца. У любым выпадку, гэтыя людзі будуць прыслухоўвацца да меркавання зверху. Вырашаць, якія праекты запускаць, будзе Міністэрства культуры і Адміністрацыя прэзідэнта. Так было заўсёды. Сістэма вертыкальнага кіравання нікуды не падзелася, што і звужае поле для манеўра», — гаворыць сцэнарыст.

Да гэтай жа праблемы апелюе і кінакрытык Ала Бабкова. «Ніякая рэформа ў беларускім кінематографе цяпер немагчымая! Яна будзе магчымая толькі тады, калі ў агульнадзяржаўным маштабе зменіцца сістэма. Мяне вельмі трывожыць тое, што ў нас няма магчымасці развіваць менавіта нацыянальны кінематограф. Калі міністр культуры заступіў на сваю пасаду, то здзівіўся, што ў нас няма ніводнага фільма пра Янку Купалу. Тут жа тэрмінова зварганілі тэму, усё запісалі, аддалі добраму аўтару. Сцэнарыст Алёна Калюнова напісала прыстойны сцэнар фільма пра Купалу. Сюжэт стужкі будаваўся на тым, што два МДБісты раяцца адзін з адным, што рабіць з Купалам, як за ім сачыць. Паказвацца яго юнацтва, сталыя гады і гібель. Гэты сцэнар чамусьці ляжыць, яму не даюць ходу. Каля двух гадоў ужо. Я не ведаю, дзе выхад з той сітуацыі, што ёсць у айчынным кіно. Пакуль бачу тупік», — песімістычна гаворыць абазнаная ў справах беларускай кінаіндустрыі крытык.

## Няма каму здымаць

Ала Бабкова распавядае, што Аляксандр Качан (сцэнарыст фільмаў «Масакра», «Акупацыя містэрыі», «Павадыр», «Розыгрыш» і інш. — аўт.) напісаў сцэнар па твору Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Але праца далей за паперу нікуды не рушыла. «Сцэнар някепскі, хаця маштабу Караткевіча там, на жаль, няма. Там няма той Беларусі, што можна было б узяць з



Ала Бабкова

рамана. Але ў цэлым сюжэтная канва, адносіны персанажаў, атмасфера зробленыя някепска. І ўсё гэта ляжыць. Чаму? — задае пытанні Ала Бабкова і тут жа на іх адказвае: — Бо цяпер трэба даставаць грошы. Іншая прычына: гэта амаль няма каму здымаць, бо людзей, якія ведаюць нацыянальную культуру, мову, на «Беларусьфільме» няма. Нашае беларускае кіно самае дэнацыяналізаванае мастацтва ў краіне».

Ад тых, хто заняты ў галіне кіно, цяпер можна пачуць многа спадзяванняў на маладых. Маўляў, цяпер моладзь абавязкова прапануе геніяльныя ідэі і будзе «Беларусьфільму» калі не «Оскар», то еўрапейскае прызнанне. «Але зноў такі вельмі многа шлагбаўмаў перад імі, —astуджае запал Бабкова. — І калі чалавек захоча нешта здымаць, але гэта не ўлезе ў параметры, то і не атрымае магчымасці зрабіць пастаноўку».

І пераказвае гісторыю, якую пачула ад рэжысёра. Нехта даваў яму на фільм два мільёна долараў. Рэжысёр прыйшоў да папярэдняга міністра культуры і сказаў, што ёсць пазабюджэтныя грошы. Але спонсар мае дзве ўмовы: не пытацца, адкуль грошы, і не вылічваць з іх палову ў бюджэтныя плацяжы, што звычайна робіцца з фінансаў, якія выдзяляюцца на кіно. На што атрымаў адказ: хай гэтыя грошы будуць пераведзеныя на рахункі Мінкульта ці міністэрства фінансаў, а мы ўжо адтуль іх будзем выбіраць. Цяпер быццам бы з'яўляецца магчымасць для вольнага фінансавання, але, падкрэслівае Бабкова, усё адно будзе многа ўмоваў, якія прадзюсеры папросту не прымуць: «Будуць заганяць у вызначаны калідор, і як толькі вы крок улева — крок управа, то нічога не атрымаеце».

«Мяркую, што ёсць патэнцыял: маладыя мусяць аб'ядноўвацца з тэлебачаннем. Грошы тэлебачання і кінематографа трэба аб'ядноўваць. Другі момант: без нацыянальнага кінематографа мы нікому не будзем цікавымі. Мы ніколі не выпаўзем са сваёй дрыгвы, калі не будзем абапірацца на літаратуру, — рэзюмуе кінакрытык і прызнаецца, што марыць, каб былі экранізаваныя раман «Рыбін горад» Наталкі Бабінай, прытча Уладзімера Арлова «Ордэн белай мышы», раман Артура Клінава «Шалом».

## Дзе ўзяць свабоду?

«Мне падаецца, што трэба адмовіцца ад буйных праектаў на некаторы час, бо яны не прынослсяць ні прыбытку, ні славы. Лепш дзесяць фільмаў па сто тысяч долараў, чым адзін за мільён. І нават калі з гэтых дзесяці фільмаў восем будуць няўдалымі, то два — паспяховымі. Трэба драбніць бюджэты, хай дзесяць маленькіх кампаній вучацца рабіць кіно, чым адна вялікая кінакампанія будзе ўзбагачаць сваіх заснавальнікаў», — прапануе свой рэцэпт рэінкарнацыі беларускага кінематографа Курэйчык.

І зноў прыводзіць у прыклад Расію. «Яны не столькі фінансуюць праекты, колькі асобаў. Мне высокі чын з Міністэрства культуры Расіі гаварыў: «Мы заўсёды прафінансуем двух рэжысёраў, што б яны ні прынеслі». Адзін з іх — Аляксандр Сакураў. І нават калі Сакураў здымае ў Нямеччыне і па сутнасці нямецкае кіно з нямецкімі акторамі, ён важны для расійскай культуры як асоба. Мы можам не разумець, што ён здымае, але ён важны. Таму мне падаецца, што трэба фінансаваць персаналій — рэжысёраў, сцэнарыстаў», — зазначае сцэнарыст Курэйчык.

Цяжка з ім не пагадзіцца. Але цягам многіх гадоў творчая сфера краіны старанна прычэсвалася пад дзяржаўную лінію, быццам палёт фантазіі, думкі можна падпарадкаваць ідэалагічным і палітычным канцэпцыям. У выніку Андрэй Кудзіненка пасля «Акупацыі містэрыі», якую высока ацанілі кінакрытыкі, свой творчы шлях працягвае ў Расіі. Студэнта Акадэміі мастацтваў Максіма Буйніцкага адлічылі з беларускай ВНУ. Ён з'ехаў вучыцца ў Кіеўскі нацыянальны ўніверсітэт тэатра, кіно і тэлебачання імя Карпенка-Карага і ляшчэ ў статусе студэнта пачаў зарабляць узнагароды кінафестываляў. Але не для Беларусі, якая ад яго адмовілася, а для Украіны.

### Што здымаць і дзе ёсць шанцы

**Парады беларускім фільммейкерам ад Андрэя Курэйчыка:**



Андрэй Курэйчык

Здымаць не пра што, а пра каго. У аснове заўжды герой. У расійскім кінематографе прызы забралі фільмы пра простыя адносіны простых людзей. Напрыклад, фільмы Аляксея Учыцеля, фільм Аляксея Папагрэбскага «Як я правёў гэта лета». Трэба шукаць вобразы, асобаў, якія адлюстроўваюць спадзевы пакаленняў. Феліні здымаў кіно пра простых італьянцаў — святароў, вуліцы Рыма, хатніх гаспадынь, пра тое, што яму балела.

База ў нас цудоўная, і няма абсалютна ніякіх праблем здымаць фільмы, і на ўмовах арэнды мы здымаем для Міхалкова, Хаціненкі ды іншых. Што тычыцца канкурэнцыі, ёсць два віды кінематографа: нам было б складана канкураваць на пракатным рынку, бо там патрэбныя аграмадныя бюджэты. Сучасная расійская карціна, якая выходзіць у пракат, мае прыкладна тры мільёны долараў на рэкламу, вытворчы бюджэт ад трох да дзесяці мільёнаў долараў, у залежнасці ад маштабу фільма. Такіх грошай у нас няма, і не будзе ніколі. Хіба што як прададзім «Беларуськалій», то можа хапіць на парачку блокбастэраў. Пракатнае кіно для нас закрытае.

У тэлевізійным кіно ў нас выдатныя магчымасці для канкурэнцыі з расінамі, бо ў нас усё больш таннае, мы дэмпінгуем. Украінскія тэлесерыялы займаюць амаль усё прадпраймавае вяшчанне на расійскіх тэлеканалах, у нас вытворчасць такога кіно яшчэ больш танная. Гэта нельга назваць кінематографам у нармальным сэнсе слова, бо гэты прадукт па-за мяжой дабра і зла. Але кляпаць і зарабляць на гэтым грошы магчыма.

Фестывальнае кіно. Яно па вызначэнню таннае, і галоўны рэсурс у ім — талент. Румынія — бяднейшая краіна, але іх кінематограф зараз заняў лідзіруючыя пазіцыі ў Еўропе. На фестывальных рынках мы можам заняць канкурэнтаздольныя пазіцыі, калі адкрыем свае таленты. Беларуская мова ў такім разе будзе плюсам, бо любы еўрапейскі фестываль шукае нацыянальны разрэз кінематографа.

### Пра Карыбы і партызан

**Алег Сільвановіч, дырэктар «Беларусьфільма»:**

— У Беларусі 35 сонечных дзён, у Італіі — 264. Таму і здымаем пра туманы. Кіно пра партызан і вайну на «Беларусьфільме» будуць здымацца і далей. У мяне 2 000 адзінак зброі, 90 000 касцюмаў (з іх каля 30 000 абмундзіраванне), у мяне некалькі танкаў, нямецкі танк, нямецкія бронетранспарцёры, у мяне гаўбіцы. У нас пейзажы — балоты, лясы, дубровы, палі, кар'еры. Нам што, тут здымаць кіно пра адпачынак на Карыбах?

Каб вывесці беларускі фільм у паспяховы кінапракат, да прыкладу расійскі, трэба выдаткаваць як мінімум 2 мільёна долараў пры бюджэце фільма 1,5 мільёна долараў.

7

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 16 КРАСАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Тэлефільм АТН «Святло Міёрскіх зорак» цыклу «Зямля беларуская».
**11.00** Серыял «Уральская каруначніца».
**12.10** Дакументальны цыкл «Сваты. Жыццё без грыму» (Украіна).
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Меладрама «Грахі нашы» (Украіна).
**17.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Арэна.
**18.45, 00.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Уральская каруначніца».
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Дзённік «Еўрабачання».
**22.55** Серыял «Вар'яты-4» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Меладрама «Грахі нашы» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Банды».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Другое жыццё Фядора Строгава».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**22.05** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.10** «Першы клас».
**00.15** Прэм'ера. «Вячэрні Ургант».
**00.45** «Несакрэтныя матэрыялы».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Свае дзеці». Расія, 2007г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Механічны апельсін».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Кінаспробы.
**09.35** Навіны надвор'я.
**10.10** Серыял «Гарачы лёд».
**11.05** Школа рамонту.
**12.10** «ВІА хіт-парад». Канцэртная праграма (Расія).
**13.05** Камедыя «Радня» (СССР).
**14.55** Прыгодніцкая камедыя «Маленькія ўцекачы» («Беларусьфільм»).
**16.25** «Альбарутэнія».
**16.55** Драматычны серыял «На нажах».
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.15** Тэлебарометр.
**20.20** Беларуская часіна.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Авертайм.
**22.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**22.55** Драматычны серыял «На нажах».
**23.55** Эксцэнтрычная камедыя «Вельмі эпічнае кіно» (ЗША).

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.00** Дарога тарнада.
**23.55** Выжыць у катастрофе.
**00.50** Мяжа трываласці.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**02.40** Дарога тарнада.
**03.40** Выжыць у катастрофе.
**04.40** Мяжа трываласці.
**05.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.45** Розныя баявыя мастацтвы.
**02.15, 11.30** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**09.30** Марафон: Мілан.
**10.30** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг: Маракеш.
**11.45** Усе віды спорту.
**12.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**13.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі.
**14.45** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. +105 кг.
**15.30** Веласпорт: Гонка «AMSTEL GOLD».
**16.15** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў.
**17.30** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў.
**18.30** Футбол: Еўрагалы.
**19.30** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Фіналы.
**21.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.55** Усе віды спорту.
**22.00** Пра рэстлінг.
**22.25** Усе віды спорту.
**22.30** Пра рэстлінг.
**23.25** Усе віды спорту.
**23.30** Конны спорт: Агляд тыдня.
**23.45** Футбол: Еўрагалы.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.10** «У сэрцы правакветнай пушчы», дак. серыял: 3 серыя.
**08.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.05** «Час гонару», серыял.
**09.50** «Бяссрэбранікі», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавўчая праграма).
**11.05** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**11.35** «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**12.25** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**12.45** «У сэрцы правакветнай пушчы», дак. серыял: 3 серыя.
**13.15** Фільматэка майстроў: «Аер», трагедыя, 2009 г., Польшча.
**14.40** «Час гонару», серыял.
**15.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.55** «Бяссрэбранікі», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 35 серыя.
**17.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**18.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавўчая праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.15** «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**21.55** Фільматэка майстроў: «Аер», трагедыя, 2009 г., Польшча.
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 17 КРАСАВІКА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**10.00** Арэна.
**10.30** Культурныя людзі.
**11.00** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія).
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Крымінальная драма «Чырвоны лотас» (Украіна).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4» (ЗША).
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Крымінальная драма «Чырвоны лотас» (Украіна).



### ОНТ

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** «Права на абарону».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Банды».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Адрыў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** Прэм'ера. «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Свае дзеці». Расія, 2007 г.
**10.10** «Дарагая перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**14.15** Фільм «Блаславіце жанчыну». Расія, 2003 г.



**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Авертайм.
**09.30** Цела чалавека.
**10.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**11.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**12.55** Баявік «30-га знішчыць!» (Расія - Сірыя).
**15.15** «Альбарутэнія».
**15.50** Драматычны серыял «На нажах» (Расія).
**16.55** Рэгіянальная праграма.
**17.55** Беларуская часіна.
**18.55** Хакей. КХЛ. Фінал. Матч 3-і.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Баварыя - Рэал. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**23.40** Драматычны серыял «На нажах» (Расія).
**00.40** Баявік «Мішэль Вальян» (Францыя).

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.00** Рыба-меч.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**03.40** Рыба-меч.
**04.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.45** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў.
**01.30** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў.
**09.30** Снукер: Мастэрс. Лондан - Фінал.
**11.00** Футбол: Еўрагалы.
**12.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**13.00** Снукер: Мастэрс. Лондан - Фінал.
**15.00** Веласпорт: Гонка «AMSTEL GOLD».
**15.45** Веласпорт: 1-ы этап.
**17.15** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў.
**18.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.30** Снукер: Мастэрс. Лондан - Фінал.
**23.00** Бокс: Міжнародны паядынак.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Два Месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**09.45** «Мой родны горад», серыял: 35 серыя.
**10.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**10.55** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**11.25** «Ранча», серыял: 48 серыя.
**12.15** «Мой родны горад», серыял: 35 серыя.
**12.40** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.05** «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**14.00** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**14.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.40** «Два Месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**17.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 14 серыя.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.40** «52 адсоткі», дак. фільм, 2007 г., Польшча–Расія.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Беларусы ў Польшчы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**21.40** «Бландзінка», серыял: 3 серыя.
**22.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**23.00** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 18 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.00** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія).
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.Гародня.
**15.25** Драма «Знікшая імперыя» (Расія).
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**18.15** Тэлестужка АТН «Кандрат Крапіва. Таямніцы біяграфіі».
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Адмысловы рэпартаж АТН «Арабскае цунамі: Падводныя камяні».
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4» (ЗША).
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Драма «Знікшая імперыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** «Правa на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Банды».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Адрыў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** Прэм'ера. «Вячэрні Ургант».
**00.45** «Наша Белараша».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Інструктар». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла». Серыял.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Інструктар». Серыял. Заключная серыя.
**00.50** «Дзіўная справа».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Еш і худней.
**09.35** Цела чалавека.
**10.10** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**11.05** Наперад у мінулае.
**11.45** Бухта капітанаў.
**12.25** Дакументальны фільм «2014. Мінск. Напярэдадні» («Беларусьфільм»).
**12.55** Баявік «Мішэль Вальян» (Францыя).
**14.50** «Пайсці і не вярнуцца» («Беларусьфільм»).
**16.20** «Альбарутэнія».
**16.55** Драматычны серыял «На нажах» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.15** Тэлебарометр.
**20.20** Беларуская часіна.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чэлсі - Барселона. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**23.40** Драматычны серыял «На нажах» (Расія).

### Discovery CHANNEL

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.45** Круты цюнінг 2008.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**00.50** Адпачываючая нацыя.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**05.40** Адпачываючая нацыя.
**04.35** Як гэта працуе.

### EUROSPORT

**00.00** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг.
**00.30** Аўтагонкі: Суперкубак Паршэ. Прэв'ю сезону.
**00.45** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**01.00** Аўтагонкі.
**01.30** Веласпорт: 1-ы этап.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Снукер: Welsh Open. Ньюпорт - Фінал.
**11.15** Алімпійскія гульні: Алімпійскі часопіс.
**11.45** Аўтагонкі: Суперкубак Паршэ. Прэв'ю сезону.
**12.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**13.00** Веласпорт: 1-ы этап.
**14.00** Веласпорт: 2-і этап.
**15.30** Веласпорт: Флэш Валонь.
**17.30** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў.
**18.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.30** Снукер: Welsh Open. Ньюпорт - Фінал.
**21.30** Алімпійскія гульні.
**21.45** Лёгкая атлетыка.
**22.05** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**22.10** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**22.15** Гольф: Тур PGA.
**23.15** Гольф: Еўрапейскі тур. адкрыты турнір Малазіі.
**23.45** Гольф: Гольф Клуб.
**23.50** Усе віды спорту.
**23.55** Ветразевы спорт: Яхт клуб.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 14 серыя.
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.10** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**10.40** Беларусы ў Польшчы.
**10.55** «52 адсоткі», дак. фільм, 2007 г., Польшча–Расія.
**11.15** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2008», канцэрт: выступ гурта «IQ48».
**11.45** «Ранча», серыял: 48 серыя.
**12.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.05** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 14 серыя.
**13.55** Два на два (тэледыскусія).
**14.30** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**15.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.15** Беларусы ў Польшчы.
**16.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.00** «Машына зменаў», тэлесерыял: 12 серыя.
**17.30** «Беларускі лес», дак. фільм.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Дэкалог, два», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**22.45** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** Гарачы каментар.

## 19 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**10.00** Тэлестужка»Кропка адліку. У Германію за досведам».
**10.30** Да цешчы на бліны.
**11.00** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія).
**12.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладрама «Права на Надзею».
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4» (ЗША). Заключная серыя.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Меладрама «Права на Надзею» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Банды».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Адрыў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Прэм'ера АНТ: «Твая Тэрыторыя».
**00.15** Прэм'ера. «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Інструктар». Серыял. Закл. серыя.
**15.30** «Забойная сіла». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Навошта табе алібі?». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Еш і худней.
**09.35** Вышэй за дах.
**10.10** Серыял «Гарачы лёд».
**11.05** Жансавет.
**11.40** Страсці па культуры.
**12.25** Баявік «Танга над прорвай» (Расія - Малдова).



**15.00** Еш і худней.
**15.30** «Альбарутэнія».
**15.55** Драматычны серыял «На нажах» (Расія). Заключная серыя.
**16.55** Рэгіянальная праграма.
**17.55** Беларуская часіна.
**18.55** Хакей. КХЛ. Фінал. Матч 4-ы.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Час футболу.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Спорцінг - Атлецік.Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**00.00** «Час футболу», працяг.
**00.20** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Атлетыка - Валенсія. Паўфінал.

### Discovery CHANNEL

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.45** Заезды.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэта працуе.

### EUROSPORT

**00.20** Веласпорт: Флэш Валонь.
**01.15** Усе віды спорту.
**01.45** Футбол: Еўрагалы.
**02.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**02.15** Фітнэс.
**09.30** Футбол: Еўрагалы.
**09.45** Снукер: Адкрыты чэмпіянат свету Кітай. Фінал.
**11.00** Веласпорт: Флэш Валонь.
**12.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**13.00** Конны спорт: Агляд тыдня.
**13.15** Снукер: Адкрыты чэмпіянат свету Кітай. Фінал.
**14.30** Веласпорт: 2-і этап.
**15.30** Веласпорт: 3-і этап.
**17.00** Футбол: Еўрагалы.
**17.15** Алімпійскія гульні.
**17.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**18.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат свету Кітай. Фінал.
**21.00** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб.
**23.00** Розныя баявыя мастацтвы.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Дэкалог, два», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**08.30** «Бландзінка», серыял: 3 серыя.
**09.15** «Машына зменаў», тэлесерыял: 12 серыя.
**09.45** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**10.30** «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**11.00** Два на два (тэледыскусія).
**11.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.40** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Джамбібум».
**12.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.30** «Дэкалог, два», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**13.30** «Бландзінка», серыял: 3 серыя.
**14.15** «Машына зменаў», тэлесерыял: 12 серыя.
**14.45** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.15** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**15.30** «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**15.55** Два на два (тэледыскусія).
**16.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**16.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял: 14 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «А калі б так здарылася?», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**18.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.55** «Апошняя змова Сталіна», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**22.50** «Палітыканы», серыял: 4 серыя.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 22 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.20** Фантастычная камедыя «Ў пошуках Галактыкі» (ЗША).
**08.00** Існасць.
**08.30** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**10.10** Медычныя таямніцы.
**10.45** Культурныя людзі.
**11.10** Тэлефільм АТН «Суцэльнасць слонімскай душы» цыклу «Зямля беларуская».
**11.35** Мультсерыял «Сямейка піратаў» (Францыя).
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).



**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.Гародня.
**15.30** Камедыя «Беражыся аўтамабіля» (СССР).
**17.25** Каробка перадач.
**18.10** Суперлато.
**19.00** Прыгодніцкая камедыя «Кракадзіл Дандзі» (Аўстралія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Дзённік «Еўрабачання».
**22.10** Лірычная камедыя «Ўрокі спакушэння» (Расія-Украіна).
**00.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.00** «Залаты грамафон». Лепшае.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Залаты грамафон». Лепшае. Працяг.
**18.30** Прэм'ера. «Легенда. Людміла Гурчанка».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: VIII нацыянальны конкурс прыгажосці «Міс Беларусь 2012».
**22.35** «Пражэктарпэрысхілтан».
**23.15** Фільм «Крутая Джорджыя».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.30** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** Фільм «Шанхайскія рыцары». ЗША-Ганконг, 2003 г.



**13.10** «Добры дзень, доктар».
**13.45** Фільм «Каштоўны падарунак». СССР, 1956 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М. Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дэкан Спэнлі». Вялікабрытанія-Новая Зеландыя, 2008 г.
**23.00** «Пякельная кухня».
**00.15** Фільм «Дом з пяску і смугі». ЗША, 2003 г.
**02.20** «Баец». Серыял.

### Беларусь 2

**07.55** Прыступкі Веры.
**08.10** Таямніца душы.
**08.35** Кожны мае права быць розным.
**09.05** Камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі» (СССР).



**11.00** Тэлебарометр.
**11.10** Школа рамонту.
**12.15** Шоў «Інтуіцыя».
**13.15** Прыгодніцкі фільм «Гаспадар мораў: На краю зямлі» (ЗША).
**15.40** Вышэй за дах.
**16.15** Бухта капітанаў.
**17.00** Кінаспробы.
**17.35** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**19.05** Камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі» (СССР).
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў.
**22.20** Спорт-кадр.
**23.05** Меладрама «Здань» (ЗША).
**01.10** Шоў «Інтуіцыя».

### Discovery Channel

**08.25** З чаго гэта зроблена?
**08.50** Як гэта ўладкавана?
**11.05** Вокамгненныя катастрофы.
**12.00** Дзёрзкія праекты.
**12.55** Лесапавал на балотах.
**13.50** Брудная работка.
**14.45** Смяротны ўлоў.
**19.20** Бяспека меж.
**19.50** Бяспека меж.
**21.10** Горш быць не магло.
**00.50** Я не павінен быў выжыць!
**02.40** Бяспека меж.
**04.05** Я не павінен быў выжыць!

### Eurosport

**00.00** Баявыя мастацтвы. Суперкомбат.
**01.30** Снукер: Чэмпіянат Свету. Шэфілд - Дзень 1.
**09.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**09.45** Аўтагонкі: Суперкубак Паршэ. Бахрэйн - Гонка 1.
**10.30** Лёгкая атлетыка.
**10.45** Алімпійскія гульні.
**11.00** Марафон: Лондан.
**14.00** Суперспорт: Чэмпіянат Свету. Нідэрланды.
**15.15** Веласпорт.
**18.00** Снукер: Чэмпіянат Свету. Шэфілд - Дзень 2.
**19.30** Супербайк: Чэмпіянат Свету. Нідэрланды. 1-я спроба.
**20.15** Супербайк: Чэмпіянат Свету. Нідэрланды. 2-я спроба.
**21.00** Снукер: Чэмпіянат Свету. Шэфілд. Дзень 2.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 22 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.30** «Уладзімір Караткевіч. Калі сканаю, душа застанецца», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**10.05** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**10.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.15** Невядомая Беларусь: «ГМА. Прагрэс ці катастрофа?», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**11.45** Калыханка для самых маленькіх.
**12.20** «Прадаецца!», дак. фільм, 2008 г., Балгарыя.
**13.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.10** «Катка», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**15.40** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Джамбібум».
**16.15** «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**16.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял.
**18.00** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 3 серыя.
**19.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Блізкія незнаёмцы», маст. фільм, 2004 г., Францыя.
**23.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

### Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Всего ________

Кассир

ГЕАПАЛІТЫКА

# ПУЦІНА — У БАРНАУЛ!

Алег НОВІКАЎ

**Сібірскія сепаратысты крытычна ўспрынялі заклік экс-міністра МНС Сяргея Шайгу перанесці сталіцу Расійскай Федэрацыі ў Сібір.**



Сяргей Шайгу

Фраза Шайгу (ён цяпер займае пасаду губернатара Маскоўскай вобласці), якая выклікала столькі эмоцый у расійскім соцыуме, гучыць у арыгінале так: «Сталіцу трэба пераносіць кудысьці далей, у Сібір, мне так здаецца». Па словах будучага губернатара, сталічныя функцыі лагічна было б перадаць аднаму з сібірскіх гарадоў, «каб уся Расія не ператварылася ў адну вялікую Маскву».

Ініцыятыва адразу атрымала розныя ацэнкі. Прычым, у абарону свайго пункту гледжання часам прыводзяцца самыя эксцэнтрычныя аргументы. Так, некаторыя апаненты пражэкту Шайгу кажуць, што сталічная метраполія ў Сібіры не рэальная, «паколькі буйныя гарады ў такіх халодных шыротах наогул «нерэнтабельныя». Гэтыя гарады ствараліся «штучна», пры каманднай савецкай эканоміцы, і цяпер яны змушаны ціха паміраць.

З другога боку, некаторыя прыхільнікі таго, каб адабраць у Масквы сталічны статус, заклікаюць суайчыннікаў быць не горшымі за казахаў: як вядома, Назарбаеў пайшоў на перанос сталіцы з Алма-Аты ў Астану. На іх думку, не падтрымаць задуму Шайгу — значыць засведчыць адсутнасць у Расіі палітычнай волі, гатоўнасці рэалізоўваць глабальныя праекты, у тым ліку праграму рэінтэграцыі краін постсавецкай прасторы. «Калі мы не можам рашыцца на тое, каб адправіць Пуціна ў Барнаул, ці здольныя мы на геапалітычны прарыў?» — задаецца пытаннем адзін з патрыятычных сайтаў.

Важна таксама адзначыць наяўнасць шматлікіх каментараў, аўтары якіх не вераць у праўдзівасць слоў Шайгу. «Прапановы пра перанос сталіцы можна разглядаць толькі як папуліцкую ідэю, якая нядрэнна глядзіцца ў СМІ і працуе на папулярнасць тых, хто з ёй выступае. Таму сур'ёзна ставіцца да падобных ідэй не варта, яны разлічаны больш на нейкі эпатаж, на прыцягненне ўвагі» («Новы Рэгіён»).

Аднак нават самыя заўзятыя крытыкі ідэі адправіць Пуціна з яго апаратам за Уральскі хрыбет прызнаюць, што пытанне Масквы трэба вырашаць. Сталіца гіпертрафавана расце. І смокча пры гэтым сокі з рэгіёнаў, што ў выніку выклікае цэнтрабежныя працэсы. Пры гэтым самі сталічныя ўлады прызнаюць масу нязручнасцяў: аўтамабільныя коркі, дрэнная экалогія, шматтысячныя пратэстныя мітынгі...

Другі комплекс праблем звязаны з тым, што ўсе апошнія гады з-за кепскай дэмаграфіі і міграцыі ў еўрапейскую частку Расіі ідзе скарачэнне насельніцтва Сібіры (прычым пераважна рускага насельніцтва). І перанос сталіцы ў гэты рэгіён — самы простыя сродак стрымаць адмоўныя дэмаграфічныя і міграцыйныя трэнды.

Не дарма ўзніклі больш практычныя кампрамісныя варыянты. Дэпутат Дзярждумы Роберт Шлегель лічыць, што ў цяперашняй сталіцы мела б сэнс б пакінуць прэзідэнта і яго адміністрацыю, а вось урад можна перанесці ў іншы горад.

Яшчэ адзін цікавы аспект праблемы — відавочны рост грамадзянскай свядомасці ўнутры маскоўскай кальцавой. Шматтысячныя мітынгі падчас апошняй зімы выклікалі асацыяцыі з падзеямі пачатку 1990-х гадоў, калі пазіцыя маскоўскай публікі вырашыла лёс СССР. Гэта прымушае эліту падумваць пра расійскі варыянт Канберы або Бразіліі.

У гэтым плане можна прагназаваць, што дыскусія пра новую сталіцу не закончыцца, якім бы ні былі вынікі цяперашняга раўнду дуэлі паміж тымі, хто за пераезд, і тымі, хто супраць.

Не дарма дэбаты наконт тэзісаў Шайгу выклікалі вялікую насцярожанасць сярод прыхільнікаў сібірскай дзяржаўнасці, якія вельмі актыўныя апошнім часам. Літаральна за 5 гадоў рух «сібіракоў» выйшаў за рамкі краязнаўчага і культурнага клуба і набыў правобраз палітычнага руху. Важным этапам стаў апошні перапіс насельніцтва ў Расіі. Сібіракі дабіліся ўключэння ў рэестр этнасаў, якія пражываць у краіне, народнасці «сібірак». Такімі сябе запісалі прыкладна 4 мільёна.

Апошнім заўважным крокам стала кампанія за тое, каб надаць Сібіры статус культурнай аўтаноміі.

Адзін з лідараў руху так фармулюе мэты аўтаноміі: «Чалавек у кожным кутку Сібіры павінен атрымліваць той жа пакет дзяржаўных паслуг, што і жыхар сталіцы. Гэта тычыцца транспарту, адукацыі, медыцыны ў першую чаргу. Для гэтых мэтаў стварыецца сібірская нацыянальна-культурная аўтаномія, якая дазволіць згуртаваць вакол сябе аднадумцаў. Узняцце рэгіянальнага патрыятызму, жаданне жыць менавіта ў сваім рэгіёне, а не ехаць жыць і працаваць у Маскву, сумесныя напрацоўкі рашэнняў і прасоўванне іх праз выбарных прадстаўнікоў».

Дэбаты ў цэнтральнай Расіі некаторыя бачаць як пачатак новага вітку каланіялізму сібірскай прасторы. Вось што піша адзін з сібірскіх блогераў: «Нікуды Масква не дзенецца, досыць паглядзець на сетку жалезных і аўтамабільных дарог. Роля буйнога цэнтра Маскве ў любым выпадку гарантавана... Затое дзесьці на абшарах Сібіры ёсць тэрыторыі, не загаджаныя дзейнасцю ўрада. Яны вырашылі вандраваць. Праўда, ніхто не дасць гарантыі, што сітуацыя не паўторыцца ў будучыні, але гэта потым, а пакуль можна на новым месцы аддаць сваім людзям вялікія кавалкі зямлі, адабраныя ў мясцовага насельніцтва, загнаць абслугу працаваць на іпатэку, карацей, зноў вяршкі збіраць і дыхаць чыстым паветрам. Час перабірацца туды, дзе ёсць паляванне і рыбалка, цішыня і спакой».

**Пытанне Масквы трэба вырашаць. Сталіца гіпертрафавана расце. І смокча пры гэтым сокі з рэгіёнаў, што ў выніку выклікае цэнтрабежныя працэсы**



У Сібіры баяцца прытоку ў іх край арміі маскоўскіх чыноўнікаў, якіх яны характарызуюць як непрадуктыўны клас. Вось прыклад тыповай думкі сібірскага аўтанаміста: «Забаўна, што за перанос сталіцы выступаюць грамадзяне, якія за ўсё сваё нікчэмнае жыццё цвіка не забілі. Вы ж, спадары, за апошнія 20 гадоў ніводнага заводу, ніводнай фабрыкі, ніводнай дарогі не пабудавалі! Ні аўтамабіля, ні самалёта!»

Цікавая думка пра тое, што перанос сталіцы ў Сібір здольны выклікаць на паўночна-заходніх межах РФ рэнесанс настальгіі па рэспубліканскай традыцыі Наўгародскай рэспублікі і ўзмацніць у грамадскай дыскусіі вектар на карысць інтэграцыі Еўрапейскай часткі РФ у склад Еўрасаюзу. Сібіракі баяцца, што ў такім выпадку паўторыцца гісторыя часоў грамадзянскай вайны, калі цэнтрам адраджэння імперскай Расіі выпадкова стала Сібір, дзе да ўлады прыйшоў адмірал Калчак. Вярхоўны кіраўнік Расіі (так называў сябе Калчак) пры гэтым не вельмі цырымоніўся не толькі з дэмакратычнымі інстытутамі, аднак і з сібірскімі «абластнікамі».

Між тым, не ўсе лічаць, што Сібір павінна цурацца прапановы стаць цэнтрам рускай дзяржаўнасці. Томск гатовы змагацца за статут расійскай сталіцы. Пра гэта заявіў па слядах выступу Шайгу мэр горада. Ён лічыць, што Томск мае патэнцыял для барацьбы за статут сталіцы РФ. «Томск — унікальны горад. І ў маштабах Сібіры, і ў маштабах усёй нашай краіны. У нас ёсць магчымасці і жаданне змагацца за статут расійскай сталіцы», — прыводзіць «Інтэрфакс» словы кіраўніка горада.

Праўда, пры гэтым у заяве мэра ўтрымліваецца апазіцыйны падтэкст. Мэр у сваёй рэкламнай заяве таксама нагадаў, што Томску ўласцівыя рысы еўрапейскага горада.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

За мяжой цяпер знаходзіцца каласальная колькасць грамадзян Беларусі — апазіцыянераў існуючаму на іх радзіме рэжыму. Усе збеглыя беларусы, на першы погляд, выразна падпадаюць пад паняцце «палітычных». Але так апынулася, што значная частка «палітычных» лепш за ўсё робіць толькі адно — балбоча. Палітоўску «беларус» гучыць так — «балтарус». На жаль, частка ўцекачоў з краіны, у якой насамрэч неабходны кардынальныя змены, цалкам апраўдвае гэта літоўскае «балтарусы».

**«Обозреватель» (Украіна)**

Восень 2010 года — час надзей. Гэты год для Беларусі быў тым жа, што для Чэхаславакіі Пражская вясна ў 1968 годзе. Еўрапейскі саюз прымусіў Лукашэнку дазволіць на прэзідэнцкіх выбарах у снежні 2010 года высоўваць свае кандыдатуры апазіцыйным палітыкам; яны нават маглі весці перадвыбарныя кампаніі, што для краіны было новым этапам. Гэта быў самы вольны перыяд у гісторыі Беларусі з сярэдзіны 1990-х гадоў. І ўсё адно гэты час скончыўся жорсткім разгонам мітынгу пасля фальсіфікаваных выбараў і шматгадовымі арыштамі шэрагу апанентаў рэжыму. Шматлікія беларусы на тыя некалькі месяцаў не могуць забыцца.

**«Aktualne» (Чэхія)**

Відавочна, Лукашэнка ў чарговы раз пераканаўся ў тым, што з Еўропай яму лаяцца нельга: як толькі гэта здараецца, яго ва ўнісон пачынае душыць Масква. І адзіны спосаб для Лукашэнкі абараніцца — зноў спрабаваць «замірыцца» з ЕС. Тым больш, што заходні сусед заўсёды гатовы да «сяброўства»: абы Мінск не здаўся Маскве. Ці будзе мірыцца гэтым разам Крэмль — тое яшчэ пытанне. Калі Расія пойдзе на саступкі і пагодзіцца з прэтэнзіямі «Белавіа», гэта будзе азначаць чарговы крах расійскай дыпламатыі.

**«Эксперт» (Расія)**

Еўрапейскія краіны і іх прыхільнікі на растаннях. Усіх хвалюе пытанне: ці можна займацца бізнэсам з беларусамі і не карміць пры гэтым рэжым Лукашэнкі. Але, як бы там ні было, Беларусі патрэбныя еўрапейскія інвестары. А Еўропе цікава беларуская эканоміка. Пытанне стаіць вострa, паколькі і Міністэрства эканомікі Беларусі, і незалежныя аналітыкі адзначаюць, што эфект ад дэвальвацыі практычна вычарпаны. Дзе ж выйсце? Выйсце магло б быць у тым, каб ужываць санкцыі да Беларусі не агулам, а з розумам, вар'іруючы іх характар у залежнасці ад сітуацыі ў пэўнай галіне. Гэта, вядома, значна складаней, але, верагодна, менавіта гэтым шляхам Еўрапейскі саюз павінен ісці.

**«DzD» (Эстонія)**

Улады Беларусі ўвесь час заяўляюць, што крызіс у краіне закончыўся, а нацыянальная эканоміка ідзе на ўздым. З такім сцвярджэннем не згодныя эксперты і насельніцтва. Эксперты ўпэўненыя, што «крызіс працягваецца», і доказ таму — рост коштаў на фоне зніжэння кошту энерганосьбітаў. Беларусі патрэбен 1 мільярд долараў знешніх уліванняў штомесяц проста для падтрымання статус-кво. Эканамічная палітыка ўладаў — адсутнасць рэформаў і захаванне палітыкі росту прыбыткаў — здольная справакаваць паўтор леташняга крызісу.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛІ. ДЗЯРЖАВУ ТУАРЭГАЎ НЕ ПРЫЗНАЮЦЬ

Выканкам Афрыканскага саюза (арганізацыі, куды ўваходзяць практычна ўсе афрыканскія краіны) у спецыяльнай заяве паведаміў пра тое, што «рашуча адмаўляе Нацыянальнаму руху вызвалення Азвадара (MNLA) — галоўнай палітычнай групоўцы народу туарэгаў — у праве абвяшчаць незалежнасць уласнай дзяржавы. Як вядома, у пятніцу, 6 красавіка, паўстанцы заявілі пра намер стварыць краіну Азвадар. Туды, адпаведна іх планам, увойдзе поўнач Малі, што зараз знаходзіцца ў руках паўстанцаў. Хутчэй за ўсё, суверэнітэт Азвадара сапраўды не прызнаюць. Жана Пінга (Jean Ping), старшыню выканкама Афрыканскага саюза, падтрымлівае ў гэтым пытанні ўрад Францыі, які вымушаны абараняць жыццё 5 000 французскіх грамадзян, што жывуць у гэтай былой калоніі Парыжу. Як правіла, Францыя вызначае, хто варты быць лідарам у сваіх былых калоніях. Акрамя таго, у Афрыцы дзейнічае каля 15–20 сепаратысцкіх груповак, і прызнанне Азвадара можа стаць для іх імпульсам, што пагражае стабільнасці шматлікіх афрыканскіх дзяржаў.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. СУДДЗЮ ЭТАПАВАЛІ Ў КАЛОНІЮ



Дзяржаўная пенітэнцыярная служба Украіны этапавала былога суддзю і старшыню Львоўскага апеляцыйнага адміністрацыйнага суда Ігара Зварыча ў адну з калоній Чарнігаўскай вобласці, дзе ён правядзе 10 гадоў. На такі тэрмін Зварыча засудзілі за хабары на суму 1 мільён долараў. Увогуле, прыгавор абвясцілі яшчэ два гады таму, аднак Зварыч яшчэ тры гады аспрэчваў яго ў розных інстанцыях, сцвярджаючы, што вялікая частка грошай патрапіла да яго ў кабінет як вынік традыцыйнага народнага абраду «засявання». Што гэта за рытуал, цалкам не вядома. Аднак праславіўся Зварыч не толькі гэтым. Па-першае, раней ён умудрыўся амаль год хавацца ад следства ў аднаго з чыноўнікаў адміністрацыі Юшчанкі, прозвішча якога ён адмаўляецца назваць. Па-другое, усеагульную славу справе Зварыча прынёс той факт, што суддзя не толькі браў хабары, аднак і прымушаў кліентаў, калі яны былі жанчынамі, здымацца ў порнафільмах, сцэнарыстам, рэжысёрам і аператарам якіх ён сам быў. Парадаксальна, аднак прыцягнуць ды адказнасці за здымкі порна пракуратура Зварыча не здолела. Ніводная з «актарак» не пагадзілася выступаць публічна ў судзе ў якасці сведкі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### СІРЫЯ. НОВЫ ХРЫСЦІЯНСКІ РАСКОЛ

Напярэдадні каталіцкага Вялікадня хрысціянская грамада Сірыі, якая складае 7 працэнтаў насельніцтва, раскалолася. Усё пачалося з таго, што шэраг маладых каталікоў-сірыйцаў прапанавалі ўсім хрысціянам адсвяткаваць Вялікдзень у адзін дзень — 8 красавіка. Ідэя быццам някепская, асабліва з улікам таго, што Папа Рымскі сам увесь час кажа пра неабходнасць адзінства ўсіх хрысціян, і нават, па чутках, рыхтуецца зрабіць спецыяльную заяву наконт аб'яднання святкавання праваслаўнага і каталіцкага Вялікадня ў верасні падчас візіту ў Ліван. Аднак сірыйскі каталіцкі клір рашуча выступіў супраць прапановы, паколькі аўтары заклiку раней стварылі рух «Хрысціяне за дэмакратыю» і падтрымалі антыўрадавыя маніфестацыі. На думку іерархіі касцёлу, хрысціяне падтрымліваюць прэзідэнта Асада, паколькі вынікам яго адстаўкі стане прыход да ўлады ісламскіх фундаменталістаў, што абапіраюцца на суніцкую большасць у краіне. Так склалася, што цяпер Сірыяй кіруе маргінальная ў ісламе секта алавітаў, якая вымушана шукаць падтрымкі з боку меншасцяў, і ў тым ліку заігрываць з хрысціянамі. Нейкім чынам гэта мадэль адносін нагадвае схему адносін паміж хрысціянскай канфесіяй і дыктатурай Садама Хусэна ў Іраку. Крах рэжыму Садама пад ударамі заходніх саюзнікаў парушыў баланс інтарэсаў і прывёў да ўлады ісламскіх фундаменталістаў, якія пачалі праследпрыхільнікаў Ісуса. Іракскі вопыт вельмі непакоіць сірыйскіх хрысціян. Праблема, аднак, палягае ў тым, што хрысціянскія вернікі звычайна належаць да забяспечанай і адукаванай часткі сірыйскага грамадства, а таму большасць з іх адмаўляецца падтрымліваць дыктатуру Асада.

**Паводле французскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. НАЙГОРШЫ ФІЛЬМ




У Польшчы адбылася першая цырымонія ўручэння прызоў прэміі «Вуж». Гэта аналаг прэміі «Залатая маліна», якая выдаецца самым кепскім стужкам Галівуду. Найбольшую колькасць намінацый атрымаў фільм Ежы Хофмана «Варшаўская бітва», які распавядае пра польска-савецкую вайну 1920 года. Публіка дала яму тры ўзнагароды — самы горшы актор, самая горшая сцэна і, нарэшце, самы горшы сцэнар. Адзінае, што можа пацешыць Хофмана, — гэта тое, што галоўны прыз за «самы горшы фільм года» дастаўся не яму, а Пшэмыславу Ангерману, стваральніку карціны «Інтэграцыйнае інтэрв'ю».

**Паводле польскай прэсы**

ЦІКАВА

# ВАЙНА З КАПТУРАМІ

Алег НОВІКАЎ

**Новы скандал на расавай глебе ў ЗША: 17-гадовы тынэйджар забіты за тое, што ён насіў вопратку, якая ў разуменні абывацеляў лічыцца адзеннем чарнаскурых гангстэраў.**




Трэйвана Марціна, 17-гадовага чарнаскурага хлопца, забілі ў Фларыдзе 26 лютага. Забойца — 27-гадовы Джордж Цымерман — выконваў функцыі ахоўніка кварталу. Перад тым, як стрэліць, ён некалькі разоў тэлефанаваў у паліцыю і казаў, што хлопец нагадвае яму наркадылера, паколькі носіць худзі (англ. hoody) байку з каптуром, якую таксама часта называюць «кенгуру». У выніку тая «кенгуру» і стала апраўданнем для забойства.

Выпадак у Фларыдзе нарабіў шуму. Па ўсёй краіне прайшлі маршы, так званыя «million hoodie marches» — маршы мільёнаў каптуроў. Шмат прафесійных спартсменаў выклалі ў інтэрнэце свае здымкі, на якіх яны апранутыя ў худзі. Ускосна ў абарону права на нашэння «кенгуру» выступілі шматлікія палітыкі, уключаючы Барака Абаму. Застаецца дадаць, што 10 красавіка стала вядома, што забойца знік. Арганізацыя «Чорныя пантэры», якая абараняе чарнаскурых, абвясціла пра прыз у сто тысяч долараў, якія атрымае той, хто выдасць Цымермана.

Напэўна, каб зразумець, у чым сутнасць праблемы худзі, трэба ўзгадаць гісторыю. Увогуле, гэты фасон з'явіўся ў сярэднявечныя часы. Тады гэта было «прафесіянальнае адзенне» манахаў. Худзі вярнулася ў гардэроб еўрапейцаў у 1930-я гады. Тыя худзі пачалі насіць будаўнікі і індустрыяльныя працоўныя ў Штатах.

У 1970-я гады байка з каптуром стала часткай стылю аматараў стылю hip-hop, піянерамі якога была моладзь вельмі крыміналізаваных чорных кварталаў Нью-Ёрку. З-за гэтай прычын худзі пачалі асацыяваць з крымінальнымі цемнаскурымі элементамі. Фільм «Рокі», дзе герой Сільвестра Сталонэ носіць менавіта такую байку, спрычыніўся да сапраўднага буму папулярнасці вопраткі. Пасля дэманстрацыі карціны спартоўцы і атлеты, а таксама школьнікі дружна жадалі атрымаць такую ж байку, як Рокі.

Нядзіўна, што хутка худзі зацікавіліся мадэльеры. «Кенгуру» можна рэгулярна пабачыць у калекцыях Джорджыа Армані, Ральфа Лорэна.

Аднак цалкам адмыць худзі ад налёту злачыннасці не ўдалося. У 1990-х гадах худзі становіцца знакам сацыяльнай ізаляцыі, абавязковым атрыбутам адзення прадстаўнікоў розных моладзевых, у тым ліку агрэсіўных, субкультур. У тыя ж 1990-я фасон узялі на ўзбраенне нямецкія анархісты, якія намагаліся падчас дэманстрацый не быць ідэнтыфікаванымі паліцыяй. На пачатку нашага стагоддзя моду падхапілі неанацысты. Сёння, аднак, мода на худзі стала больш сацыяльна шырокай.

Між тым, забабоны наконт худзі, сфармаваныя ў 1990-я гады, дасюль даюць пра сябе ведаць. У Аўстраліі і Канадзе існуюць школы, дзе вучням забараняецца прыходзіць на заняткі ў худзі. У аўстралійскім Брысбене існуюць так званыя Hoodie Free Zone — гарадскія зоны, вольныя ад худзі. Паліцыя ўсур'ёз лічыць, што гэта добрая прэвентыўная мера ад вулічных злодзеяў, якія звычайна носяць адзенне з каптуром.

Такой жа логікай кіруюцца дырэкцыі шматлікіх брытанскіх супермаркетаў, ахова якіх не прапускае публіку, апранутую ў падобным стылі. Худзі-аматары — любімыя персанажы жоўтай прэсы, якія ахвотна робяць з мухі слана. Так, славуты таблоід «Sun» нейкі час вёў кампанію супраць бейсбольных кепак, якія, на думку выдання, — ідэальны сродак схаваць твар ад аб'ектываў відэакамер. Кампанію супраць худзі падтрымаў у свой час асабіста прэм'ер Вялікабрытаніі Тоні Блэр.

**Славуты таблоід «Sun» нейкі час вёў кампанію супраць бейсбольных кепак, якія, на думку выдання, — ідэальны сродак схаваць твар ад аб'ектываў відэакамер. А кампанію супраць худзі падтрымаў асабіста Тоні Блэр**

На пачатку XXI стагоддзя вайна вакол худзі стала ў Вялікабрытаніі нацыянальнай з'явай. Так, папулярная на Альбіёне рэпспявачка Lady Sovereign пачала акцыю «Выратаваць худзі» і нават прысвяціла гэтаму песню. Кампанія не была безвыніковай. Некаторыя каледжы і школы пагадзіліся дазволіць вучням насіць худзі, аднак пры ўмове, што нацягваць каптуры дзеці будуць выключна падчас дажджу.

У лютым 2006 года вялікі інтарэс грамадства выклікаў інцыдэнт у адным з лонданскіх супермаркетаў, куды адмовіліся пускаць пенсіянера, апранутага ў кофту з каптуром. Наведвальнік праз суд даказаў, што павінен насіць худзі, паколькі яму пагражае аблысенне. У выніку адміністрацыя супермаркета папрасіла ў старога прабачэння.

Пасля гэтага выпадку адносіны да худзі сталі мяняцца. Так, цяперашні брытанскі прэм'ер Дэвід Кэмеран падчас апошняй выбарчай парламенцкай кампаніі заявіў, што худзі носяць не ў агрэсіўных, а наадварот, у абарончых мэтах. Адначасова лейбарысты зрабілі слоганам сваёй кампаніі «Hug a hoodie». Магчыма, яны жадалі тым самым выклікаць асацыяцыю з вядомым змагаром за сацыяльную справядлівасць па мянушцы Робін Гуд. Ёсць папулярная версія, што славутага злодзея з Шэрвудскага лесу называлі на самай справе не Робін Гуд, а Робін Худ, або Робін Каптур.

У той час, як брытанскае грамадства перамагло стэрэатыпы наконт байкі з каптуром, па той бок Атлантыкі вайна вакол худзі толькі пачынаецца. Гэта вельмі дзіўна, паколькі амерыканцы прыдумалі джынсы — універсальную для ўсіх класаў форму адзення. Функцыі худзі вельмі падобныя на функцыі джынсаў. Гэта папросту практычная паўсядзённая вопратка. Дарэчы, джынсы, як і худзі, доўгі час былі адзеннем сініх каўняроў — рабочага класу ЗША.

На думку шматлікіх культуролагаў, мы маем справу з нейкім новым тыпам сегрэгацыі, у аснове якой ляжыць тая ж, што і ў расізме, культура страху перад чужым, ксенафобскія забабоны і стэрэатыпы.

Анжэла МакРобі, брытанскі спецыяліст па камунікацыі, тлумачыць феномен худзі тым, што каптур, пад якім можна схаваць твар, выклікае пачуццё ананімнасці, містэрыі і загадкі. «Крыніца арыгінальнасці, безумоўна, чорная культура hip-hop, аднак апошнім часам яна стала сродкам падтрымліваць сімвалічную дыстанцыю ад свету ўніформы і дрэс-кодаў, які патрабуецца для офісаў. Гэта стварае пасланне ізаляцыі сябе ад свету і адначасова пагрозы на яго адрас», — лічыць спецыяліст.

Амерыканцы ўжо пачынаюць вывучаць вопыт Новай Зеландыі, дзе ўжо тры гады святкуюць так званы Hoodie Day. Яго адзначаюць у рамках тыдня моладзі і прыдумалі менавіта для таго, каб разбурыць абывацельскі міф пра тое, што насіць худзі — значыць абавязкова быць злачынцам. Цікава, што не ўсе палітыкі ў захапленні ад рэабілітацыі худзі. Некаторыя амерыканцы баяцца, што рэабілітацыя худзі можа дазволіць сябрам расісцкай арганізацыі Ку-Клукс-Клан спакойна хадзіць па вуліцах. Вядома, што элементам прафесійнага адзення сяброў ККК таксама ёсць каптур.

ВЫБАРЫ

# АРАНЖАВЫЯ СУПРАЦЬ ПАРТЫІ РЭГІЁНАЎ

**Украінская апазіцыя, здаецца, знайшла агульную мову напярэдадні прызначаных на кастрычнік парламенцкіх выбараў. Пра тое, як і на якіх умовах аб'ядналіся апаненты Януковіча, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім палітолагам Алегам Вернікам.**



***— 9 красавіка палітычная рада партыі «Фронт змін» (Фронт пераменаў) ухваліла рашэнне пайсці на выбары з іншай аранжавай структурай — партыяй «Батьківщина». Што канкрэтна прадугледжвае пагадненне?***

— Адпаведна заявам лідараў Арсенія Яцэнюка і Аляксандра Турчынава, абедзве партыі сфармуюць адзіны партыйны спіс і ўзгодняць кандыдатуры ў мажарытарных акругах. На думку падпісантаў, калі гэта зрабіць, цалкам рэальна атрымаць у Вярхоўнай Радзе 226 мандатаў, што якраз будзе складаць парламенцкую большасць. На думку палітолагаў, гэта занадта амбіцыйная мэта. Усе апытанні кажуць, што рэйтынг блоку не выходзіць за мяжу 20 працэнтаў. А вось калі да тандэму «Фронт змін»—«Батьківщина» далучацца іншыя аранжавыя, то шансы апазіцыі набраць у Вярхоўнай Радзе больш галасоў, чым Партыя рэгіёнаў і іх саюзнікі, някепскія.

***— Як вядома, пралогам для пагаднення стала стварэння Камітэту супраціву дыктатуры (КОД) у студзені, куды ўвайшла, напрыклад, партыя нацыяналістаў «Свабода» Алега Цягнібока, партыя баксёра Уладзіміра Клічко УДАР. Чаму гэтыя партструктуры не далучыліся да пагаднення?***

— Тут ёсць розныя прычыны. Уладзімір Клічко неяк праліччыў, што адзін ён атрымае больш месцаў у парламенце, чым у каліцыі. Што тычыцца Цягнібока, то яго матыў добра зразумелы. Нацыяналісты маюць шансы прайсці выключна на Захадзе Украіны, і гэта можна зрабіць без падтрымкі іншых дэмакратаў. Праўда, не выключана, што нацыяналісты ўсё ж далучацца да кааліцыі. Прынамсі яны гатовыя да гэтага, калі ім дадуць права «вета» пры вызначэнні кандыдатураў у мажарытарных акругах.

***— Вынікі пагаднення можна лічыць вельмі добрымі для Арсенія Яцэнюка. Газеты пішуць, што менавіта ён будзе займаць першае месца ў выбарчым спісе дэмакратаў.***

— Тактычна гэта сапраўды вялікі поспех Яцэнюка. Тое, што ён у топе спісу апазіцыі, павышае яго шансы на тое, каб праз тры гады стаць адзіным дэмакратычным кандыдатам на выбарах прэзідэнта. Аднак на самай справе сітуацыя больш складаная. Турчынаў і кампанія гатовыя ўзяць Яцэнюка ў якасці «паравоза», паколькі не маюць на гэтых выбарах харызматычнага кандыдата. Менавіта пад канкрэтную асобу, а не пад ідэалогію, традыцыйна будуюцца ўсе апошнія выбарчыя кампаніі ва Украіне. Аднак і Цімашэнку спісваць рана. Яна яшчэ не згубіла шансы вярнуцца ў вялікую палітыку. Акрамя таго, у самой партыі «Батьківщина» хапае тых, хто падазрае Яцэнюка ў рэйдарстве, быццам ён хоча захапіць гатовы палітычны праект. Яму спатрэбіцца час пераканаць гэтую групу партыйцаў, каб лічыцца лідарам усёй апазіцыі. Не кажучы пра тое, што шматлікія сябры «Фронт змін» не любяць Юлію за яе папулізм.

***— Хто яшчэ, акрамя згаданых партый, можа трапіць у Вярхоўную Раду?***

— Адпаведна вынікам апошніх апытанняў (яны адбыліся ў сакавіку), калі б выбары ў Вярхоўную Раду адбыліся зараз, то пяціпрацэнтны бар'ер пераадолелі б Партыя рэгіёнаў (18 працэнтаў), «Батьківщина» (15 працэнтаў), «Фронт змін» (9 працэнтаў), УДАР (8 працэнтаў) і Камуністычная партыя Украіны (6 працэнтаў). Балансуе на мяжы ўваходу партыя «Свабода».

***— Калі меркаваць па лічбах, Партыя рэгіёнаў не будзе здольныя кантраляваць парламент. На што разлічвае Янукович?***

— Эксперты даўно прагназавалі, што на старт гэтых выбараў бела-блакітныя выйдуць з нізкім рэйтынгам. Іншага цяжка было чакаць у сітуацыі, калі крызіс працягваецца, і даводзіцца праводзіць непапулярныя сацыяльныя меры. Таму загадзя была праведзеная выбарчая рэформа, галоўным пунктам якой стала вяртанне мажарытарнай сістэмы. Па мажарытарных акругах у Вярхоўную Раду будуць абраныя 225 дэпутатаў. Ужо зараз зразумела, што галоўнымі фаварытамі тых выбараў стануць бізнэсмэны, якіх душыць жаба заплаціць некалькі мільёнаў долараў, каб трапіць у праходную частку спісу нейкай буйной партыі. Яны будуць весці самастойныя кампаніі, робячы стаўку на банальны подкуп выбаршчыка. У выпадку атрымання мандатаў, такія дэпутаты, відавочна, працягнуць справу «тушак» — так у цяперашняй Вярхоўнай Радзе называюць дэпутатаў, якія за грошы перабеглі ў фракцыю Партыі рэгіёнаў. За кошт такіх «тушак» і можна паспрабаваць сфармаваць патрэбную большасць пад урад Азарава. Нельга таксама забываць пра іншыя механізмы хуткага нарачвання рэйтынгу Партыі рэгіёнаў: адміністратыўны рэсурс, кампрамат, абвастрэнне культурнага і моўнага пытанняў. Шмат што будзе залежаць ад таго, як пройдзе турнір Еўра–2012.

***— Перад апошнім візітам у Маскву Янукович паабяцаў улетку надаць дзяржаўны статус рускай мове. Гэта з арсеналу тых самых выбарчых прыёмаў?***

— Безумоўна. Іншая справа, што грамадскасць на гэты раз вельмі слаба рэагавала на тыя словы. Магчыма, людзям папросту надакучылі абяцанкі наконт дзяржаўнага статусу рускай мовы, якія агучваюцца перад кожнымі выбарамі. Не выключана, што ў час крызісу адбылася пераарыентацыя каштоўнасцяў. Моўнае пытанне ў час крызісу не так цікавіць людзей, як сацыяльныя праблемы, а ў гэтай галіне Партыі рэгіёнаў няма чым пахваліцца. Праўда, апошнім часам пачалі рабіцца выплаты ўкладчыкам Сбербанку СССР. Нарэшце, заява Януковіча пра мову аказалася скомканая з-за скандалу вакол Аксаны Макар — ахвяры гвалтавання ў Мікалаеве. Прычым асобы гвалтаўнікоў у масавай свядомасці мелі асацыяцыю з Партыяй рэгіёнаў з-за бацькі аднаго са злачынцаў, апаратчыка партыі Януковіча. У выніку пра мову пакуль больш не гавораць.

***— Ці стануць гэтыя выбары чымсьці новым у гісторыі незалежнай Украіны?***

— Пакуль я не бачу нічога, што кардынальна адрознівала б выбары 2012-га ад папярэдніх. Новых людзей і новых палітычных сіл не назіраецца. Спрабуюць зрабіць сабе піяр лібералы з партыі Наталлі Каралеўскай, аднак гэта не той узровень. Супрацьстаянне працягваецца па лініі 2004 года: аранжавыя супраць Партыі рэгіёнаў. Адзіным прагрэсам можна лічыць больш асцярожнае стаўленне людзей да наяўнасці ў выбарчых спісах буйных бізнэсмэнаў. Усё ж такі выбаршчык зрабіў урокі пасля гісторыі з «тушкамі». На розных палітычных шоў гэта пытанне часта абмяркоўваецца, і палітыкам даводзіцца абяцаць не дапусціць праколу.

***— Каб закончыць размову на аптымістычнай ноце, варта адзначыць, што выбары ва Украіне — гэта таксама нейкім чынам шоў, у якім замест актораў выступаюць палітыкі. Выбарчая гонка 2012-га не расчаруе?***

— Здаецца, толькі ўчора пра свой намер стаць мэрам Кіева абвясціў скандальны дэпутат-гей Сяргей Ляшко. Літаральна надоечы ён уварваўся ў студыю аднаго з каналаў, дзе даваў інтэрв'ю галоўны санітар Расіі Генадзь Анішчанка, і стаў шпурляць у яго розную ежу з крыкамі: «Ясі наш сыр, каўбасу і сала!» Аказваецца, такім чынам заканадавец пратэставаў супраць абмежавання на ўвоз гэтых прадуктаў у Расію. З гэтага інцыдэнту можна меркаваць, што сумаваць на выбарах нам не давядзецца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЛЕГ ШЕІН



Адзін з лідараў партыі «Справядлівая Расія», які трымае галадоўку пратэсту, умудрыўся ператварыць родную Астрахань у Мекку расійскіх рэвалюцыянераў. Усе з-за вельмі супярэчлівых выбараў мэра горада, куды балатаваўся Шеін. Калі верыць афіцыйным вынікам, перамог яго канкурэнт Міхаіл Столяраў, сябра «Адзінай Расіі» (ЕР). Аднак Шеін і яго сябры сцвярджаюць, што на выбарах мелі месца фальсіфікацыі. На гэтым гісторыя б і закончылася, калі б не адзін момант. Алег Шеін — вядомая ў расійскім левым руху фігура. Ён пачынаў палітычную кар'еру яшчэ ў 1990-я гады як актывіст незалежнага прафсаюзу, і хаця пасля дарос да дэпутата Дзярждумы, захаваў моцныя кантакты ў асяроддзі радыкальных левых. У выніку пратэст Шэіна падтрымалі ў шматлікіх гарадах. Так, у Маскве пачалася галадоўка салідарнасці з Шэіным, якую арганізаваў Левы Фронт. У самой Астрахані высадзіўся дэсант апазіцыянераў, сярод якіх была група дэпутатаў Дзярждумы і вядомы персанаж Навальны. Адпаведна, у першай палове тыдня цэнтр Астрахані з-за перманентных мітынгаў быў перакрыты. Апазіцыя спрабавала нават разбіць намётавы лагер. Штодня прыбываюць новыя партыі пратэстуючых. Улады, здаецца, знаходзяцца ў прастрацыі, аднак ідэю правядзення перавыбараў пакуль не падтрымліваюць.

### ТЭЙН СЕЙН



Не так даўно з падачы прэм'ер-міністра Бірмы (М'янма) у краіне ўпершыню за доўгія гады адбыліся свабодныя парламенцкія выбары. Яшчэ адной знакавай падзеяй пачатку рэформаў стала змена курсу валюты. Цэнтральны банк абвясціў, што цяпер адзін у.е. будзе каштаваць 818 куатаў (назва бірманскіх грошай). Маштабнасць рэформы звязаная з тым, што курс бірманская валюты не мяняўся 35 гадоў. Усталявалі яго ў час, калі Бірма будавала сацыялізм. Было вырашана, што аптымальным курсам для маладой сацыялістычнай гаспадаркі будзе курс: 6 куатаў за долар. Курс з самага пачатку быў штучным. Часам курс долара на чорным рынку даходзіў да 1400 куатаў. Цяперашні курс быццам адпавядае рынкаваму. Увогуле, пачатая рэформа вельмі насцярожыла насельніцтва. Усе памятаюць, што зрабіла хунта ў 1988 годзе. Тады грашовая рэформа зводзілася да абмену купюр у 50 і 100 куатаў, што выклікала банкруцтва сямей, якія трымалі зберажэнні ў гэтых банкнотах. З-за пратэстаў бірманцаў давялося нават уводзіць вайсковае становішча.

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Імя прэзідэнта Казахстана, як вядома, носіць шмат культурных, адукацыйных і сацыяльных аб'етаў, напрыклад, універсітэт у Астане. А вось стыпендыі імя Назарбаева ўжо няма. Чэрчыль-каледж Кембрыджскага ўніверсітэта адмовіўся выдаваць стыпендыю імя першага прэзідэнта Казахстана, што выклікала вялікую рэакцыю на радзіме казахскага гаранта. Стыпендыя імя Назарбаева была заснаваная пры каледжы і выдавалася грамадзянам Казахстана для правядзення навуковых даследаванняў. Цяпер прадстаўнікі каледжа нечакана заявілі, што яны вырашылі змяніць назву стыпендыі пасля таго, як ва ўстанове занепакоіліся з нагоды якіх-небудзь асацыяцый з самім Нурсултанам Назарбаевым. Справа ў тым, што апошнім часам адукацыйныя ўстановы ў Вялікабрытаніі сталі пазбягаць асацыяцый з аўтакратамі. Прычынай таму стаў скандал у Лонданскай школе эканомікі, якую апошнія гады фінансаваў сын былога дыктатара Лівіі Саіф аль-Кадафі. Тады ў Лондане нават жартам называлі гэту ўстанову Лівійская школа эканомікі. Цёплыя адносны з Трыпалі моцна падарвалі прэстыж Лонданскай школы эканомікі, і Кембрыдж яўна не жадае паўтарэння гісторыі. Застаецца сказаць, што дэмакратычная грамадскасць Казахстана дружна заклікае Назарбаева выдаваць стыпендыю імя сябе на базе нейкага брытанскага тэхнічнага каледжа. Як вядома, Назарбаеў не атрымаў вышэйшую адукацыю. Яго сапраўдная альма-матэр — ПТВ у Днепрадзяржынску.

ЦІКАВА

# НЕАБВЕШЧАНАЯ ВАЙНА 1920-х У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Амаль адразу пасля заканчэння савецка-польскай вайны Разведвальнае ўпраўленне РЧСА (далей: Разведупр РЧСА) пачынае стварэнне і перакідку на тэрыторыю ўсходніх ваяводстваў Польшчы атрадаў баевікоў для арганізацыі там масавага ўзброенага супраціву польскім уладам. Разлік быў просты: прафесійныя «чэкісты» ўскалыхнуць масы, і ў выніку рэвалюцыйнага выступу бальшавікі вернуць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ў склад краіны Саветаў. Дзейнасць такіх партызанскіх атрадаў атрымала назву «актыўная выведка».**


Іосіф Нехвядовіч і яго намеснік Станіслаў Ваўпшасаў (справа). 1927 год


Кіраўніцтва Польшчы на мяжы з СССР у Заходняй Беларусі


Ваявода Станіслаў Даўнаровіч


Кірыл Арлоўскі

На тэрыторыі савецкай Беларусі фармаваліся так званыя «паўстанцкія групы». Для іх вельмі старанна падбіраўся камандны склад. Каля дзяржаўнай мяжы ствараліся спецыяльныя «вокны» для перакідвання дыверсантаў «за кардон». Ва ўсходняй частцы Палескага і паўднёвай частцы Навагрудскага і Віленскага ваяводстваў Польшчы дзейнічалі савецкія партызанскія атрады пад камандаваннем Кірыла Арлоўскага і Станіслава Ваўпшасава.

Ужо летам 1922 года пра савецкіх партызанаў гаварылі ва ўсёй Польшчы. Менавіта тады атрад Арлоўскага ў раёне Белавежскай пушчы знішчае паліцэйскі ўчастак, а таксама захоплівае і спальвае маёнтак «Добрае дрэва» ў Грудніцкім павеце. Усяго з 15 чэрвеня па 6 жніўня 1922 года на тэрыторыі Гродзенскага і Ііліцкага паветаў было праведзена 9 баявых аперацый, у выніку якіх партызаны разгромілі 3 маёнткі буйных землеўласнікаў, спалілі палац князя Друцкага-Любецкага, узарвалі 2 паравозы на вузкакалейнай дарозе, якія належалі французскай фірме.

Акрамя гэтага, на чыгуначнай лініі Вільня–Ліда быў знішчаны чыгуначны мост, а таксама значная частка дарожнага палатна. У ходзе аднаго з баёў баевікі Арлоўскага знішчылі атрад польскіх улан. 14 кастрычніка 1922 года партызаны напалі на маёнтак «Струга» ў Столінскім павеце, у выніку чаго была забіта вялікая колькасць польскіх паліцэйскіх.


Польскія памежнікі ў раёне Столбцаў. 1925 год

У 1923 годзе партызанскі рух узмацніўся. У ноч з 19 на 20 мая атрад у складзе 30 партызан здзейсняе налёт на паліцэйскі ўчастак і будынак гміны ў Чучэвічах (Лунінецкі павет). 27 жніўня баевікі праводзяць аперацыю ў мястэчку Целяханы Косаўскага павета, у выніку чаго было забіта два паліцыянта і войт. 29 жніўня партызаны нападаюць на маёнтак «Моладава» Драгічынскага павету.

Кульмінацыя «актыўнай выведкі» прыпадае на 1924 год, калі напады на памешчыцкія маёнткі, паліцэйскія пасты і асабліва на цягнікі сталі больш дзёрзкімі і частымі. У ноч з 18 на 19 ліпеня 1924 года партызанскі атрад, узброены станковым кулямётам, здзейсніў налёт на мястэчка Вішнева ў Валожынскім павеце. У баі былі забіты камендант павятовай паліцыі, камісар Уладзімеж Лапацінскі.

На ўчастку Пінск–Лунінец атрад пад камандаваннем Кірыла Арлоўскага ажыццявіў паспяховы напад на спеццягнік, які перавозіў палескага ваяводу Станіслава Даўнаровіча. На станцыі Лоўчы была зроблена засада. Цягнік з высокапастаўленымі чыноўнікамі быў спынены сігналам чырвонага сцяжка. Партызаны ўзарвалі чыгуначныя шляхі, адчапілі паравоз і абяззброілі нешматлікую ахову. Акрамя ваяводы ў цягніку ехалі камендант 14-й акругі паліцыі Юзэф Менсовіч, біскуп Лазінскі і сенатар Бялыслаў Віславух. Забіваць нікога не сталі. Але, як паведамляла савецкая газета «Ленінградская праўда» за 1924 год, Даўнаровіча высеклі бізуном. Забраўшы грошы, каштоўнасці і зброю, «лясныя браты» рэціраваліся. За гэты інцыдэнт ваявода быў звольнены са сваёй пасады.

У лістападзе ўсё таго ж 1924 года іншы партызанскі атрад, які дзейнічаў па лініі «актыўнай выведкі» ў Баранавіцкім павеце, здзейсніў напад на цягнік каля станцыі Лясная. Пасажыры цягніку пазбавіліся сваіх грошаў і каштоўнасцяў. Усяго з красавіка па лістапад 1924 года бальшавіцкія партызанскія атрады правялі больш за 80 буйнамаштабных баявых аперацый. Па падліках аналітыкаў Другога (разведвальнага) аддзела Генштаба Войска Польскага, на тэрыторыі Віленшчыны, у лясах Палесся, у Налібоцкай, Белавежскай і Гродзенскай пушчах дзейнічала 5–6 тысяч партызан. За перыяд з красавіка 1921 па красавік 1924 года на польска-савецкай мяжы было зафіксавана 259 пераходаў мяжы, учыненых баевікамі Разведупра РЧСА.

Польскія ўлады з усёй сур'ёзнасцю ўсведамлялі небяспеку «актыўнай выведкі», якую праводзілі савецкія партызанскія атрады ва ўсходніх ваяводствах Другой Рэчы Паспалітай. У 1922 годзе на тэрыторыі «крэсаў» былі ўведзены ваенна-палявыя суды. Першапачаткова асноўны цяжар барацьбы з камуністычным падполлем лёг на польскую памежную паліцыю. Але паліцыянты не спраўляліся з гэтай складанай місіяй. З камісарыятаў Віленскага, Навагрудскага, Палескага ваяводстваў у Варшаву пастаянна ішлі тэлеграмы з просьбай аб накіраванні «на крэсы» воінскіх падраздзяленняў для барацьбы з «камуністычнымі бандамі».

У жніўні 1924 года Рада міністраў пад старшынствам прэзідэнта Станіслава Вайцехоўскага прыняла рашэнне аб стварэнні новага ваенізаванага органа для аховы польскай усходняй мяжы. 12 верасня Міністэрства абароны выдае загад аб стварэнні Корпуса памежнай аховы (КАП). Гэта падраздзяленне стваралася як своеасаблівыя войскі спецыяльнага прызначэння. У Варшаве разумелі, што ў беларускіх лясах хаваюцца не збунтаваныя сяляне, а добра падрыхтаваныя вайсковыя разведчыкі, якія цудоўна ведаюць тактыку вядзення партызанскага бою.

1 лістапада 1924 года КАП прымае пад ахову ўчастак савецка-польскай мяжы на тэрыторыі Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. З красавіка 1925 года да іх дадалося і Палескае ваяводства. У 1924 годзе салдаты КАП удзельнічаюць у 89 боесутыкненнях з савецкімі партызанамі. Акрамя гэтага, у Заходняй Беларусі ўзмацняюцца воінскія гарнізоны польскай арміі. Усё гэта паўплывала на паступовае зніжэнне актыўнасці савецкіх партызан.

А неўзабаве адбылася падзея, якая паставіла крыж на дзейнасці савецкіх дыверсійных атрадаў на тэрыторыі Усходняй Польшчы. У ноч з 7 на 8 студзеня 1925 года атрад партызан, прыціснуты польскімі памежнікамі да мяжы, з боем прарваўся на тэрыторыю СССР, разграміўшы пры гэтым савецкую памежную заставу ў мястэчку Ямполь. Сітуацыя пагаршалася тым, што партызаны былі апранутыя ў польскую вайсковую форму, і савецкія памежнікі вырашылі, нібыта напад здзейснілі рэгулярныя часткі Войска Польскага. Трывожнае паведамленне пра бой на мяжы прыйшло ў Харкаў, а адтуль у Маскву. 8 студзеня 1925 года адбылося экстранае пасяджэнне Палітбюро. У выніку была створана спецыяльная камісія для расследавання «Ямпольскага інцыдэнту». Палякам, у сваю чаргу, перадалі ноту, у якой адзначалася, што «савецкі бок гатовы да ўладжвання інцыдэнту мірным шляхам».

У выніку «актыўная выведка» ва Усходняй Польшчы да выхаду 1925 года была згорнутая. У чэрвені 1925 года быў расфармаваны атрад С. Ваўпшасава. У гэтым жа годзе ў СССР вярнуўся і К. Арлоўскі. Скарыстаўшыся разгубленасцю ў шэрагах партызан, польскія ўлады пачалі актыўную барацьбу з імі. На тэрыторыі Заходняй Беларусі праводзіліся карныя акцыі і масавыя арышты.

Кропка ў барацьбе за Заходнюю Беларусь была пастаўлена ў верасні 1939 года, калі ў выніку «вызваленчага» паходу Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 года значная тэрыторыя былых Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў Польшчы былі ўключаныя ў склад БССР. Як пакажа далейшая гісторыя — назаўсёды.

ВЫДАВЕЦКІЯ НАВІНКІ

# АЛЬМАНАХ «DUDAR»: ТРАДЫЦЫІ І СТЫЛЬ ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Не так даўно пабачыў свет першы нумар альманаха «Dudar», які стаў чарговым амбіцыйным праектам тых, хто паставіў за мэту адраджэнне ў Беларусі такой культурнай з'явы, як мастацтва грання на дудзе — дударства.**



Стваральнікі альманаха (злева направа): Зміцер Сасноўскі, Тодар Кашкурэвіч, Андрэй Апановіч

Сапраўды, вяртанню і крышталізацыі нацыянальнага стылю ігры на дудзе спрыялі сустрэчы і канцэрты на зборах Дударскага клуба Беларусі, «Дударскі фэст», на якім лепшыя выканаўцы розных музычных стыляў прапаноўвалі слухачам свае пошукі новага гучання беларускага нацыянальнага інструмента, а таксама факт таго, што беларускія майстры аднавілі аўтэнтычны выгляд, гучанне і строй старажытнага інструмента — беларускай дуды... Заставалася стварыць нешта такое, што б на сто адсоткаў сцвярджала тое, што беларуская дударская школа адроджана. Гэтым аргументам стала выданне паўнавартаснага друкаванага выдання Дударскага клуба Беларусі — альманаха «Dudar», які на мінулым тыдні быў прэзентаваны на адмысловай прэс-канферэнцыі. Яна сабрала шмат журналістаў айчынных друкаваных і электронных СМІ, выдаўцоў альманаха і галоўных дзеючых асоб матэрыялаў, змешчаных на старонках новага выдання.

Старшыня рэдакцыйнай рады альманаха «Dudar» вядомы беларускі музыкант і даследчык Зміцер Сасноўскі, які ў гэты вечар прадстаўляў і сваё аўтарскае выданне — дапаможнік «Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX–XX стст.», падрабязна спыніўся на гісторыі стварэння дэбютнага нумара альманаха. «Першы нумар «Dudar'a» з'яўляецца вынікам шасцігадовай падрыхтоўчай працы аўтарскага калектыву, — падкрэсліў Зміцер, — які працаваў увесь гэты час на безганарарнай аснове. Але гэта не перашкодзіла таму, што наш першанец напоўнены звышактуальнымі матэрыяламі пра гісторыю і сённяшні дзень дударства на Беларусі, шыкоўнымі здымкамі выканаўцаў, якія зрабіў Алег Белавусаў, грунтоўнымі даследаваннямі нацыянальнай выканаўчай традыцыі, а таксама метадычнымі матэрыяламі для пачынаючых выканаўцаў і майстроў».

Ветэран дударскага руху ў Беларусі, майстар і даследчык гісторыі беларускай дуды Тодар Кашкурэвіч таксама быў усцешаны выхадам альманаха, хоць і падкрэсліў тое, што яго палохае прэтэнзія выдаўцоў зрабіць глянцавы, гламурны часопіс, якім ён здаецца сёння. Але нягледзячы на гэта, Тодар аддаў належнае стваральнікам альманаха і распавёў, што першы нумар «Dudar'a» выклікаў шмат станоўчых эмоцый у яго шматлікіх літоўскіх сяброў, што трохі супакоіла і самога Тодара. «Адзінае, што выклікала ў мяне пярэчанне ў тэматыцы першага нумара — жаночая прысутнасць у айчынным дударскім руху. Я кансерватар, таму планую ў наступным нумары выступіць з тэарэтычным абгрунтаваннем маёй пазіцыі па жаночаму пытанню ў айчынным дударскім руху». Гэтае выказванне выклікала шмат пытанняў да Тодара, які паспрабаваў тэзісна сфармуляваць сваё непрыняцце жаночага грання на дудзе. Вынік гэтых разважанняў — у Беларусі з яе фундаментальным падзелам свету на мужчынскую і жаночую часткі, жанчына з дудой можа быць успрынята як вядзьмарка. Але Тодар канстатаваў факт, што ў Беларусі, як і ў суседніх краінах, жанчыны складаюць значную частку выканаўцаў на гэтым інструменце. Напрыклад, у Эстоніі дударак больш за дудароў! У Беларусі іх таксама дастаткова, і пра гэта сведчыць матэрыял альманаха «Жаночае дударства. Эмансіпацыя ці страчаная традыцыя» А. Шэляха і В. Угляніцы. На гэтым гендарная тэма альманаха «Dudar» была часова вычарпана.

Прысутныя больш засяродзіліся на агульным змесце альманаха, які стаў аб'ектам пільнай увагі вядучага прэс-канферэнцыі Зміцера Сасноўскага. Першае, што ён адзначыў, — гэта пастановачныя здымкі Алега Белавусава, якія ствараюць візуальны вобраз стылю беларускай дуды і выканаўцаў на гэтым інструменце. Гэта вельмі важна, — падкрэслівалі выдаўцы альманаха, — для пазнавальнасці беларускага інструмента ў свеце.

Да таго ж, вялікую частку візуальнага аздаблення альманаха складаюць фестывальныя здымкі, у тым ліку і «open air». Яны сведчаць пра багатае канцэртнае жыццё беларускіх выканаўцаў розных стыляў, разнастайнасць форм музычных сустрэч (навуковыя канферэнцыі на свежым паветры, клубныя канцэрты з непасрэдным кантактам выканаўцаў і слухачоў і г.д.) Яны заахвочваюць дудароў з розных краін наведваць Беларусь, удзельнічаць у фестывальным руху краіны.

Вялікую цікаўнасць у чытачоў выкліча раздзел, прысвечаны даследаванням па абранай тэматыцы. Значную навуковую і пазнавальную нагрузку нясуць грунтоўныя даследчыя і філасофскія матэрыялы Тодара Кашкурэвіча, Зміцера Сасноўскага, Алеся Сурбы, Віталя Сёмухі і іншых аўтараў. Дадайце да гэтага вытрымкі з запісаў вядомых этнографаў Н. Нікіфароўскага і Е. Раманава — і вобраз тэарэтычнага часопіса, разлічанага на вузкіх спецыялістаў, будзе сфармаваны. Але, насамрэч, гэта не зусім так.

Сухую акадэмічнасць тэкстаў і гістарычных алюзій «разбаўляюць» тэксты іншай накіраванасці. Па-першае, цікава будзе пазнаёміцца з арыгінальнымі методыкамі даследавання магчымасцяў інструмента з матэрыялу З. Балая «Дуды і жывёлы: рэакцыя жывых істотаў на гукі дуды», а таксама спазнаць спецыфічны дударскі гумар з падборкі А. Чумакова «Анекдоты пра дудароў». Як падкрэслівалася выдаўцамі, анекдоты — вельмі папулярная частка альманаха, і яна будзе пастаянна абнаўляцца, бо жыццё і творчасць выканаўцы дае бясконцыя падставы для іх з'яўлення.

Другі нумар альманаха «Dudar» выдаўцамі анансаваны на жнівень бягучага года. У ім — абяцаюць сябры выдавецкай рады — будзе ўзнята шмат праваканцыйных (у добрым сэнсе) тэм, якія прадставяць беларускую дуду і выканаўцаў на ёй у іншым ракурсе, прыадчыняць тайны выканаўчага майстэрства ігры і сакральнага зместу гэтага нацыянальнага беларускага інструмента.



Вокладка альманаха «Дудар»

АФІША

## ДУДАРСКІ ФЭСТ–2012

**Дударскі фэст–2012 — адзінаццаты па ліку міжнародны фестываль, які прысвечаны такому старадаўняму інструменту, як дуда (валынка).**

У 2012 годзе дударскі рух Беларусі прыйшоў да смелых эксперыментаў у спалучэнні традыцыйных інструментаў і электроннай музыкі — праект «Пава», DJ Павел Бальцэвіч, новыя праграмы гуртоў «LitvinTroll» і «Кашлаты Box» ды інш. Зноў на сцэне з'явяцца дзеці — гурт з Івянца «Рарог». Упершыню прыедзе дудар з Украіны — Віктар Лявіцкі. Традыцыйна будуць выступаць музыкі з Польшчы — упершыню на Беларусі гурт «Tryzna». Дэбютуе на сцэне малады беларускі гурт «Тутэйшыя».

**27 красавіка, 19:00. Палац культуры ветэранаў (Я. Купалы, 21).** Канцэрт-адкрыццё. Удзельнікі: «Стары Ольса», «ESSA», дуэт Дзяніс Сухі і Стась Чавус, Віктар Лявіцкі (Украіна), «Рарог» (Івянец, падлеткавы гурт). Перад канцэртам у фае — танцы са слухачамі, тэатр «Яварына», гурт «Тутэйшыя».

**Кошт квіткоў:** ад 40 000 да 70 000. Кропкі продажу: пераход Я. Коласа, пераход ГУМ, Палац ветэранаў (тэл. 017-3271180).

**29 красавіка, 18:00. Клуб «Re:public». Гала-канцэрт.** Удзельнікі: «Tryzna» (Польшча), «Стары Ольса», «LITVINTROLL», «Тутэйшыя», «CORNU COPIA», DJ Павел Бальцэвіч & Зміцер Сасноўскі. Конкурс імправізацыі з DJ Паўлам Бальцэвічам, PAWA (фольк-мадэрн — праект гурта «TESTAMENTUM TERRA»), «Кашлаты Box». Танцавальная падтрымка: тэатры Дэ-Грыза, «Яварына», «Фламея», «Гістрыён».

**Кошт квіткоў:** 45 000 — першыя 100, 55 000 — 65 000 папярэдне, танцпол 75 000 — месца за столікам. Кропкі продажу: пераход Я. Коласа, пераход ГУМ, клуб «Re:public», ГЦ «Купалаўскі», 19 кропка; ГЦ «Рыга», 18 кропка і інш.

**Даведкі:** 6490888, 1103535, (017) 3271180.



MEMORIA

# ПАМЯЦІ АРЫНЫ ВЯЧОРКІ

**5 красавіка з Вільні прыйшла першая драматычная вестка: з Арынай у аэрапорце, з якога яна мусіла ляцець да дачкі, здарыўся інсульт. 9 красавіка прыйшла другая, ужо трагічная, звестка аб смерці Арыны. Усяго толькі на 51-м годзе жыцця.**



Смутак і боль. І вялікая страта. Не толькі для сям'і і блізкіх, для тых, хто ведаў яе асабіста, але для ўсяго беларускага адраджэнскага, для ўсяго дэмакратычнага руху найноўшага часу. Па вялікім рахунку — для Беларусі. Але здзейсненае Арынай Вячоркай ёсць здабыткам Беларусі. Сённяшняй, у яе дэмакратычным сегменце, і заўтрашняй — цалкам дэмакратычнай і свабоднай.

Здавалася, іх была ўсяго толькі невялічкая купка, маладых і адчайных, хто на пачатку 1980-х здолеў убачыць скрозь цемру савецкага таталітарызму водбліск адраджэнскага руху мінулых пакаленняў і падхапіць эстафету іх справы.

Арына была сузаснавальніцай першага беларускага нефармальнага згуртавання новага часу «Беларуская спеўна-драматычная майстроўня» (1980–1985), а затым і моладзевага адраджэнскага згуртавання «Талака» (1986–1988), удзельніцай руху за адраджэнне беларускай школы (з 1983 года). Яны ўгадалі свой час і расчулі яго покліч. З «Майстроўні» і «Талакі» вырасла мноства моладзевых суполак, якія і сталі асновай нефармальнага Беларускага народнага фронту і апазіцыі БНФ у Вярхоўным савеце, што ўрэшце прывяло да абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Пра гэты вынік выхадзец з той жа кагорты першых адраджэнцаў новага часу, высілкамі якога быў аднаўлены выхад газеты «Наша ніва», выбітны публіцыст Сяргей Дубавец сказаў так: «Ва ўсім гэтым вялікім дасягненні, у стварэнні незалежнай краіны Беларусь ёсць вельмі сур'ёзны ўклад і Арыны Вячоркі».

Наўпрост у палітыку Арына не пайшла. Сваім стваральным аршанскім полем бітвы яна абрала асвету і культуру. Бо без іх няма нацыі, няма краіны. Бо гэта дзейнасць была ёй па душы, па характару, па розуму. Каб быць узброенай, яна, матэматык па першай адукацыі, заканчвае аспірантуру БДУ па спецыяльнасці «гісторыя педагогікі», Вышэйшую школу грамадскіх прафесіяў у Познані па спецыяльнасці «менеджар культуры».

Працавала ў беларускіх школах Мінску, у Лабараторыі філасофіі і гісторыі адукацыі Нацыянальнага інстытуту адукацыі. Аўтар артыкулаў з гісторыі беларускай педагогікі, гісторыі матэматыкі і тэхнікі Беларусі для «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», «Гісторыі беларускай навукі і тэхнікі». Укладальніца двухтомнай бібліяграфіі гісторыі беларускай педагогікі.

А яшчэ яна была намесніцай дырэктара ААТ «Новая музычная кампанія» (2007–2009), намесніцай дырэктара выдавецтва «Каўчэг» (з 2009), каардынатарам міжнародных праектаў Дома сустрэчаў «Мікушэва» (Польшча, з 2011), адным з кіраўнікоў этнагістарычнага цэнтру «Явар».

Усяго толькі з пераліку, ды і тое няпоўнага, рэалізаваных Арынай Вячоркай спраў, адкрываецца Атлантыда беларускай культуры, узнятая яе высілкамі з глыбінь акіяну таталітарнага бяспамяцтва.

Заснавальніца рыцарскага руху і першых рыцарскіх турніраў у Беларусі. Стваральніца і кіраўніца Беларускага рыцарскага клубу, пазней клубу «Вялікае княства» (1996–2007).

Стваральніца шэрагу праектаў гістарычнай музыкі — «Легенды Вялікага Княства», «Старажытная зямля», серыі «Беларуская музычная калекцыя» («Постфольк», «Музыка Вялікага Княства Літоўскага», «Беларускі музычны авангард», «Спевы Беларусі», «Мэдываль», «Вясковая лірыка») і шэрагу іншых. Аўтар праекту «Ноч музыкі» ў Белдзяржфілармоніі (2010). Кансультант музычнага праекту «Гістарычны эпас», фільма «Старадаўнія музычныя інструменты Беларусі».

Арганізатар больш як 100 канцэртаў старадаўняй і фальклорнай музыкі «Легенды Вялікага Княства», «Старадаўняя музыка Беларусі і Еўропы» ды іншых. Прадзюсер гурту «Стары Ольса», музычнага праекту «Вір». Адна з арганізатараў нацыянальных конкурсаў маладых выканаўцаў старадаўняй музыкі «У гонар каралевы Боны» (Мінск, Навагрудак). Адна з заснавальнікаў Беларускага клубу лютністаў.

Па ўспамінах усіх, хто ведаў Арыну, яна любіла жыццё, жыла напоўніцу. Была лёгкай і прыязнай у адносінах з людзьмі. Дзеці былі для яе шчасцем, як і яна для іх. Іх у яе трое: Радаслава; Францішак, Ружана. Унук Даніла.

Калектыў рэдакцыі «Новага часу», чыім аўтарам была і Арына Вячорка, выказвае глыбокія спачуванні яе сям'і блізкім.

**Аляксей Кароль**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**Цудоўнае гарэзлівае шчаня**



Гэтае шчаня-дзяўчынка пакуль не мае нават імя. Яго могуць даць новыя гаспадары. Яна — завадзіла ва ўсіх гульнях, мае яўныя лідарскія якасці. Вырасце каля 30 сантыметраў, бацькі — вельмі прыгожыя і пацешныя калмаценькія дворыкі. Ёсць і іншыя малечы, самых розных колераў, пухнатасці і памеру. Яны — кандыдаты на траплянне ў адлоў на Гурскага. А там малым вельмі складана выжыць. Калі вы шукаеце шчанюка, патэлефануйце валанцёрцы Марыне, яна абавязкова вам кагосьці прапануе, і вы дапаможаце ўратаваць яшчэ адно сабачае жыццё: 8-029-633-16-35, 8-029-708-63-67.

**КАСІК — вельмі ўважлівы коцік**

Кот вельмі добры і сціплы, нават саступіць любімую цацку, калі іншы коцік пажадае з ёй пагуляцца, дый з місачкі сваёй гатовы частаваць іншых. Вельмі ахайны хлопчык, з цудоўнымі манерамі. Любіць клапаціцца пра сваіх сяброў, асабліва кацянят.

Пагадзіцеся, такі характар — рэдкасць нават сярод людзей.

У Касіка дымчаты пінжачок і белая кашулька, яму ўсяго 1,5 годзіка, кастрыраваны і прызвычаены да латку.



Тэлефануйце валанцёрам прытулку «СуперКот», каб болей даведацца пра юнага джэнтльмена Касіка: 8-029-650-97-29 Аксана, 8-029-373-96-49, 8-029-779-52-03 Вольга.

MEMORIA

# СПАЧЫЎ СТАРЭЙШЫНА ЖУРНАЛІСТЫКІ МІХАІЛ ТЫЧЫНА

**8 красавіка на 86-м годзе жыцця не стала журналіста Міхаіла Адамавіча Тычыны.**



Ён нарадзіўся на Случчыне (Старобінскі раён) у вёсцы Кутнёў. Да вайны скончыў 7 класаў. У снежні 1944-га быў мабілізаваны ў войска, трапіў на Балтыйскі флот — адслужыў шэсць з паловай гадоў. Завочна скончыў журфак БДУ. Доўгі час працаваў у раённых газетах, 31 год быў уласным карэспандэнтам «Мінскай праўды». Жыў у Слуцку. У апошні час яго матэрыялы змяшчалі «Народная воля» і «Кур'ер».

Свой ужо апошні ліст у «Новы час» Міхаіл Адамавіч даслаў на пачатку сакавіка гэтага года. У канверце была мініяцюра-згадка «Як мне напаміналі, чый хлеб ем» пра «ідэалагічную закваску» 70-х гадоў, а таксама... адшуканыя ва ўласным архіве вершы Лесі Беларускі.

«Дасылаю два знойдзеныя мною ў сваіх архівах 50-х гадоў кімсьці падораныя вершы Лесі Беларускі, палітычнай зняволенай сталінскага рэжыму ў 30-я гады... — пісаў Міхаіл Адамавіч. — Лісткі з гадамі пажаўцелі, але крык душы беларускай на волю — і сёння гучыць злабадзённа».

Міхаіл Тычына быў старэйшым журналістам Беларусі, які да свайго апошняга дня актыўна цікавіўся беларускім грамадскім і культурніцкім жыццём. Зрэшты, неаднаразова і «расплочваўся» за тое. У адну з леташніх «маўклівых серадаў» ветэран Вялікай Айчыннай вайны на галоўнай плошчы Слуцка быў затрыманы і дзве гадзіны правёў у міліцэйскім пастарунку...

Пахаваны Міхаіл Адамавіч Тычына на гарадскіх могілках каля вёскі Селішчы.

Хай будзе пухам яму родная слуцкая зямля і вечнай — памяць!

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 343

Падпісана да друку 13.04.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.